

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

12 ЛІПЕНЯ 2002г. № 27/4161 КОШТ 310 РУБ.

## ДЗЕНЬ ПАЭЗІІ—2002

***Ужо стала традыцыяй, што падчас святкавання дня нараджэння народнага паэта Беларусі Янкі Купалы, "ЛіМ" на сваіх старонках выпускае "Дзень паэзіі". І гэты юбілейны для Генія год не стаў выключэннем— сёння мы прапануем чытачам творы Пятра ПРЫХОДЗЬКІ, Івана ЛАГВІНОВІЧА, Міколы СТАРЧАНКІ, Алеся МАКРАЦОВА, Ганны ШКОДА, Ніяны ЗАГАРЭЎСКАЙ, Наталлі ШКАПІЧ, Алеся ЖУРАЎСКАГА, Віктара ТРУСЕВІЧА, Уладзіміра ШПАДАРУКА, Алеся КАСЦЕНЯ, Сташкі ГРЫНІЧ, Алеся ДУБРОЎСКАГА-САРОЧАНКАВА, Алены ІГНАЦЮК, Дзіяны ДУДЗІНСКАЙ, Алеся БАБАЕДА, Арцёма АРАШОНКА, Аляксандра ДАЛІМАЕВА, Таісы МЕЛЬЧАНКІ, Міколы МАСКЕВІЧА, Галіны КАСПЯРОВІЧ, Алены УСЦІЛОЎСКАЙ, Сяргея ІВАНОВА, Таццяны ХМАРЫ, Сяргея РАБЧУНА, Васіля БАРЫСЮКА, Ніны АКСЁНЧЫК, Генадзя ПШЭННІКА, Тамары МАЗУР, Яўгена ГУЧКА, Анатоля КУДЛАСЕВІЧА, Аксаны ДАНІЛЬЧЫК, Таццяны БАРЫСЮК, Серафімы БЕСТАВАЙ, Юліі ЗАРЭЦКАЙ, Алы НІКІПОРЧЫК, Святланы ЯВАР, Змітрака КУЗЬМЕНКІ, Андрэя АЛЯКСАНДРАВА, Сцяпана СЯРГЕЯ, Галіны БАБАРЫКІ, Надзеі ХОЦІНАЙ, Іны МАРОЗ, Мікалая ВІНЯЦКАГА, Ірыны ВОЙТКІ, Дзмітрыя ДЗЯТКО, Алены РУЖ, Тамары БАРАДЗЁНАК, Сяргея ПАТАРАНСКАГА, Паўла ГАСПАДЫНІЧА, Юрася СВІРКІ, Анатоля ЗЭКАВА, Паўла САКОВІЧА, Міколы ШАБОВІЧА, Уладзіміра ЕРМАЛАЕВА, Эдуарда АКУЛІНА...***





## Край паэтаў

*Добра ведаюць усе амаль з маленства,*
*Што паэтаў нараджаюць пад Смаленскам,*
*Ля падножжа Арарата і ў Сібіры,*
*І на землях Руставелі і Сабіра,*
*Над Дняпром, дзе нешта п"юць з пякучым перцам,*
*І на Балтыцы, дзе людзі з мужным сэрцам.*
*Часам іх знаходзяць у Разані,*
*А яшчэ жывуць паэты ў Дагестане...*
*Ёсць яшчэ адзін куточак запаветны,*
*Дзе растуць, нібы грыбы, здаўна паэты.*
*Там зязюлямі завуцца ўсе кукушкі,*
*Гэтым краем з Кішынёва ехаў Пушкін.*
*Там прыгонных шмат паэтаў замарылі,*
*Там Міцкевіч закахаўся у Марылю.*
*І Тарас у Пецярбург ішоў праз слёзы,*
*На яго шляху журыліся бярозы...*
*З той пары там песняроў— нібыта маку,*
*Аж статыстыка дае ў падліках маху.*
*Край чаромхі і чабору, край прасторны,*
*Дзе і крытыкі вядуць сябе прыстойна.*
*Там маланкі аб дубы ламаюць коп"і,*
*Выдаўцы там не бяруць у рот ні кроплі.*
*Смела дзятлы пішуць вершы на бяросце,*
*Не вылазяць з-за стала па тыдню госці.*
*Там чарнічныя ўсе ночы,*
*Сунічныя ранкі,*
*Там народ найболей любіць вершы Янкі.*
*Там дзяўчаты носяць белыя панчошкі,*
*Сто разоў цалуюць там і яшчэ трошкі.*
*Дзе ж той край залатакосы, край зялёны—*
*Рык ласіны,*
*Звон пчаліны,*
*Мора лёну?*
*Там, дзе Свіцязь, там, дзе Прыпяць і Ясельда,*
*Дзе танцуюць пад цымбалы на вяселлях;*
*Дзе жанчына, сінявокая і ласкавая,*
*Звонка чаравічкамі паляскавала.*

Пімен ПАНЧАНКА



# КОЛА ДЗЁН

**Споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння Янкі Купалы. Не за гарамі гэткі ж юбілей Якуба Коласа. А ў кожнага з нас ёсць магчымасць рабіць усё, каб наша краіна займала свой пачэсны пасад між народамі, да чаго заклікалі ўсіх беларусаў нашы класікі...**

## УКАЗ ТЫДНЯ

У мэтах далейшага ўдасканалення ўмоў ажыццяўлення навуковай і інавацыйнай дзейнасці і ўзмацнення дзяржаўнай падтрымкі навукі Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падпісаў Указ № 362 "Аб дадатковых мерах дзяржаўнай падтрымкі навукі". Указ набыў сілу 9 ліпеня 2002 года.

## ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

10 ліпеня споўнілася 60 гадоў першаму беларускаму касманаўту двойчы герою Савецкага Саюза Пятру Клімуку. Віншуем!

## РОСТ ТЫДНЯ

Амаль у 1,4 раза павялічылася за мінулы месяц агульная па краіне сума пратэрмінаванай запазычанасці па заробках. Паводле звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу, па стане на 30 чэрвеня даўгі дасягнулі адзнакі 76,2 млрд. рублёў або 14,4 працэнта ад фонду зарплаты за адзін месяц. Найбольшыя неплацяжы — у Брэсцкай і Гродзенскай абласцях. Запазычанасць работнікам навукі і навуковага абслугоўвання ўзрасла з 80,7 да 98,5 млн., культуры — з 20,2 да 32,5 млн., адукацыі — з 17,6 да 27 млн. рублёў.

## ПРЫПЫНЕННЕ ТЫДНЯ

У сувязі з тым, што з 1 ліпеня ў Расіі ўступіў у сілу новы федэральны закон "Аб грамадзянстве Расійскай Федэрацыі", пасольства гэтай краіны ў Беларусі распаўсюдзіла паведамленне для прэсы. У ім гаворыцца, што з 1 ліпеня консульскі аддзел пасольства і генеральнае консульства ў Брэсце прыпыняюць прыём заяў і хадайніцтваў аб набыцці расійскага грамадзянства або выхадзе з яго на падставах, прадугледжаных у старым законе ад 1991 года. Пра тое, калі будзе адноўлены прыём заяў, у хуткім часе можна будзе даведацца з рэспубліканскага друку.

## СТАТЫСТЫКА ТЫДНЯ

Сёлета амаль на палову зменшылася, у параўнанні з мінулым годам, колькасць выпускнікоў школ, узнагароджаных па выніках вучобы залатымі і сярэбранымі медалямі. Усяго медалі па выніках паспяховай вучобы ў школе атрымалі ў гэтым годзе 6126 чалавек, што складае 6,8 працэнта ад агульнай колькасці выпускнікоў 2002 года: 4226 выпускнікоў (або 4,7 працэнта) скончылі школу з залатымі і 1900 выпускнікоў (або 2,1 працэнта) з сярэбранымі медалямі. Але гэтыя лічбы не сведчаць пра тое, што нашы дзеці сталі горш вучыцца...

## ІНІЦЫЯТЫВА ТЫДНЯ

У Мінску ў гэтым годзе будзе створаны муніцыпальны банк. Гэтую ініцыятыву кіраўніцтва мэрыі падтрымаў Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка.

## ПАСТАНОВА ТЫДНЯ

Яшчэ толькі сярэдзіна ліпеня, а ўжо некалькі раёнаў Брэсцкай вобласці пачалі выбарачную ўборку збожжавых. Савет Міністраў Беларусі прыняў пастанову аб неадкладных мерах па падрыхтоўцы да ўборкі ўраджаю. Згодна з гэтым дакументам, сельгаспрадпрыемствам рэспублікі ў гэтым годзе трэба сабраць ураджай з 2466,8 тысячы гектараў. Восенню павінна быць пасеяна азімых на плошчы 1293 тысячы гектараў. У пастанове адзначана, што для правядзення комплексу збожжаўборачных работ створана 148 механізаваных атрадаў, у якіх ёсць 948 збожжаўборачных камбайнаў. Усяго ў вёсках будзе працаваць больш як 16 тысяч адзінак гэтай тэхнікі. З рэспубліканскага, мясцовых бюджэтаў і мэтавых фондаў на ўборку ўраджаю 2002 года і сяўбу азімых выдзяляецца 23,78 мільярдаў рублёў, будзе прадастаўлены таварны крэдыт у выглядзе паруча-змазачных матэрыялаў.

## РЭЙТЫНГ ТЫДНЯ

Паводле новага рэйтынг-ліста Міжнароднай федэрацыі футбола пасля заваявання чэмпіёнскага тытула на нядаўнім чэмпіянаце свету спіс, які складаецца з 203 зборных, узначалілі бразільцы. Другі радок за сабой захавалі аргенцінцы. Зборная Беларусі перамясцілася з 88-ай пазіцыі на 83-ю. Сярод каманд былога Савецкага Саюза вышэй за нашых хлопцаў толькі зборная Расіі (28 месца), Украіны (44 месца), Грузіі (55) і Узбекістана (68).

## ДАТЭРМІНОВАСЦЬ ТЫДНЯ

8 ліпеня ў шасці ВНУ нашай краіны датэрмінова пачаліся ўступныя экзамены. Сярод такіх ВНУ — Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі, Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў, Беларускі дзяржаўны універсітэт, Акадэмія кіравання пры Прэзідэнце Беларусі і Вышэйшае пажарна-тэхнічнае вучылішча па надзвычайных сітуацыях Беларусі. Датэрміновыя экзамены выкліканы тым, што на працягу некалькіх гадоў у названыя ВНУназіраліся самыя высокія конкурсы. Акрамя таго, такое новаўвядзенне дазваляе абітурыентам пры жаданні падаваць дакументы адначасова ў тры вышэйшыя навучальныя ўстановы.

## ВАГА ТЫДНЯ

Незбалансаванае харчаванне прывяло да таго, што больш як 53 працэнты жыхароў нашай краіны маюць лішнюю вагу. Самы тлусты чалавек Беларусі важыць 175 кг і знаходзіцца пад рэгулярным кантролем урачоў.

# Пад зоркай Янкі Купалы

Апошнія дні мінулага тыдня выдаліся багатымі на паэтычныя святы. І гэта не дзіўна — наша краіна адзначала 120-годдзе з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Найбольш маштабным стала Рэспубліканскае свята паэзіі на радзіме Песняра ў Вязынцы "Паэзіі і музыкі спатканне". З усіх куткоў Беларусі, а таксама з замежжа прыехалі госці, каб пакланіцца зямлі, якая нарадзіла і ўзгадавала вялікага паэта, якога ведае і шануе ўвесь свет.

Пасля ўскладання кветак да помніка Песняру з прывітальным словам выступіў прэзідэнт Міжнароднага фонду Янкі Купалы Вячаслаў Рагойша. Затым высокія госці свята, а сярод іх былі такія дзяржаўныя постаці як Уладзімір Дражын, Леанід Гуляка, Іван Карэнда, Пётр Брыгадзін і іншыя, наведалі дом-музей, дзе нарадзіўся Янка Купала, спыніліся ў "Паэтычным кутку", што быў каля свірна і разам з прыхільнікамі паэтычнага слова паслухалі выступленні пісьменнікаў Анатоля Бутэвіча, Віктара Шніпа, Антаніны Хатэнкі, Станіслава Валодзькі, Валерыя Стралко, Святланы Явар, Валерыі Куставай. Вёў імпрэзу галоўны рэдактар Беларускага радыё, паэт Навум Гальпяровіч.



Свята "Паэзіі і музыкі спатканне" адкрыў на вялікай сцэне віцэ-прэм'ер Уладзімір Дражын. З паэтычным словам выступілі Генадзь Бураўкін, Сяргей Законнікаў, Раіса Баравікова, Уладзімір Някляеў, Алесь Пісьмянкоў, Леанід Дранько-Майсюк, Эдуард Акулін. У час выступлення паэтаў гаспадыняй на сцэне была старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава.

Да канца свята, а яно працягвалася дапазна, можна было яшчэ ў "Паэтычным кутку" каля свірна паслухаць вершы паэтаў Маладзечаншчыны. Да ўсяго, папрысутнічаць на продажы юбілейных манет, прысвечаных 120-годдзю Янкі Купалы і Якуба Коласа, купіць санеты Янкі Купалы на васьмі мовах свету, набыць на памяць творы народных майстроў і самім патанчыць і паспяваць, радуючыся таму, што усё-ткі Беларусь жыве і будзе жыць.

**Н. К.**

*Фота С. ЛУК'ЯНАВА*





# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Днямі прайшла навукова-практычная канферэнцыя "Янка Купала і незалежнасць Беларусі", у якой узялі ўдзел Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Вольга Іпатава, Сяргей Законнікаў, Вячаслаў Рагойша, Алесь Бяляцкі, Уладзімір Конан і іншыя. Гісторык Віталь Скалабан падрабязна расказаў пра жыццёвы шлях песняра, асвятліў невядомыя раней старонкі яго творчай дзейнасці.

●

Два дні ў Вялікай зале Дома літаратараў працаваў міжнародны сімпозіум "Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі", скліканы па ініцыятыве Саюза беларускіх пісьменнікаў пад эгідай ЮНЕСКА пры падтрымцы інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа НАН Беларусі, Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, камітэта экалогіі чалавека БелСаЭс "Чарнобыль", Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, Міністэрства адукацыі, Міністэрства культуры, Міністэрства інфармацыі, Белтэлерадыёкампаніі, экспертнага савета пры старшыні Савета Рэспублікі, Беларускага ПЭН-цэнтра, міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі. Скліканню прадстаўнічага форума папярэднічала плённая праца 8 "круглых сталоў", дзе разглядаліся пытанні існавання нацыі ва ўмовах праяўлення вострых грамадскіх і прыродных супярэчнасцей. Навукоўцы, пісьменнікі, палітыкі, грамадскія дзеячы розных краін падчас работы сімпозіума падкрэслівалі пільную неабходнасць фарміравання новага разумення чалавека і ягонага свету, стварэння новых канцэпцый жыццядзейнасці, захавання культурнай разнастайнасці свету, і найперш чалавека як асобы Доўгі час меркавалася, што прырода — невычэрпная крыніца рэсурсаў і браць ад яе можна бясконца. Але сёння прыродныя ўмовы не могуць адаптавацца да новых тэхнагенных варункаў, таму чалавецтву, якое цягам XX стагоддзя павялічылася ў тры разы за кошт этнаканфесійных кангламератаў, трэба шукаць новыя шляхі, каб не апынуцца ў сітуацыі глабальнай экалагічнай і духоўнай катастрофы. Павінна адбыцца карэннае рэфармаванне адукацыі: побач з вялікімі сусветнымі мовамі павінны захоўвацца і развівацца мовы нацыянальныя і гэта мае стацца агульным патэнам, бо кожная мова — неацэнны скарб планеты. Сёння наспела таксама неабходнасць вызначэння месца беларусаў у свеце, бо наша ўсеагульная задача — жыць у адзіным рытме з часам і прыродай. Працэс глабалізацыі ідзе з няўмольнай сілай і менавіта праз актыўны дыялог чалавецтва рухаецца да ўзаемаідэнтыфікацыі, да захавання культуры — сукупнасці агульнанабытых норм, правіл, якасцей, ведаў, што перадаюцца з пакалення ў пакаленне.

Прывітанні сімпозіуму даслалі лаўрэаты Нобелеўскай прэміі Гюнар Грас, Віслава Шымборска, Кэндзабура Оэ, а таксама В. Быкаў, Ю. Малінэн, Э. Смулкова, знакамітыя дзеячы культуры, навукі, мастацтва розных краін свету.

**М. Р.**

# У Беларускім саюзе мастакоў

У Рэспубліканскай мастацкай галерэі прайшла выстаўка-конкурс дзіцячага малюнка "З любоўю да Францыі", прысвечаная 200-годдзю з дня нараджэння Віктора Гюго. Арганізавана гэта мерапрыемства было сумеснымі намаганнямі Беларускага Саюза Мастакоў і аддзела супрацоўніцтва і культуры Пасольства Францыі ў Беларусі.

●

Старшыня Беларускага Саюза Мастакоў Уладзімір Басалыга сустрэўся з міністрам культуры РБ Леанідам Гулякам для абмеркавання пытанняў, звязаных з фінансаваннем выстаўкі, якую плануецца правесці з нагоды 120-годдзя Янкі Купалы і Якуба Коласа.

●

Сяргей Давідовіч адзначыў свае 60-годдзе адкрыццём у Рэспубліканскай мастацкай галерэі персанальнай выставы жывапісу, якое прайшло сумесна з прэзентацыяй яго новай кнігі «Гумарынку пад язык».

●

У Рэспубліканскай мастацкай галерэі прайшло адкрыццё выставы жывапісу Яўгена Каробушкіна. Выстава прымеркавана да 70-годдзя мастака.

●

Старшыня фонду Саюза кампазітараў Сяргей Салохін з нагоды свайго 60-годдзя наладзіў невялікую выстаўку сваіх работ у галерэі Саюза кампазітараў.

●

У Беларускім саюзе мастакоў ідзе падрыхтоўка да вялікай міжнароднай выстаўкі ў Маскве, ідэя якой належыць Канфедэрацыі творчых саюзаў. Выстаўка запланавана на канец года і мае сваей мэтай паказаць развіццё нацыянальнага мастацтва за апошнія дзесяць год. У беларускіх мастакоў ёсць магчымасць паказаць на выстаўцы да 50-ці работ.

**Марына КАСЬЯНАВА, студэнтка журфака БДУ**

## Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 350

# Аб Дзяржаўным гімне Рэспублікі Беларусь

1.Зацвердзіць прыкладзеныя:

тэкст і музычную рэдакцыю (ноты) Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь;

Палажэнне аб Дзяржаўным гімне Рэспублікі Беларусь.

2.Міністэрству інфармацыі апублікаваць у сродках масавай інфармацыі тэкст і музычную рэдакцыю (ноты) Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь, а таксама выдаць іх.

3.Савету Міністраў Рэспулікі Беларусь забяспечыць прывядзенне актаў заканадаўства ў адпаведнасць з дадзеным Указам і прыняць іншыя меры, накіраваныя на яго рэалізацыю.

4.Дадзены Указ уступае ў сілу з 2 ліпеня 2002 г.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА**
**2 ліпеня 2002 г., г. Мінск**

# Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь

**Словы Міхася Клімковіча, Уладзіміра Карызны**

**Музыка Несцера Сакалоўскага**

*Мы, беларусы— мірныя людзі,*
*Сэрцам адданыя роднай зямлі,*
*Шчыра сябруем, сілы гартуем*
*Мы ў працавітай, вольнай сям"і.*

*Слаўся, зямлі нашай светлае імя,*
*Слаўся, народаў братэрскі саюз!*
*Наша любімая маці-Радзіма,*
*Вечна жыві і квітней, Беларусь!*

*Разам з братамі мужна вякамі*
*Мы баранілі родны парог,*
*У бітвах за волю, бітвах за долю*
*Свой здабывалі сцяг перамог!*

*Слаўся, зямлі нашай светлае імя,*
*Слаўся, народаў братэрскі саюз!*
*Наша любімая маці-Радзіма,*
*Вечна жыві і квітней, Беларусь!*

*Дружба народаў— сіла народаў—*
*Наш запаветны, сонечны шлях.*
*Горда ж узвіся ў ясныя высі,*
*Сцяг пераможны— радасці сцяг!*

*Слаўся, зямлі нашай светлае імя,*
*Слаўся, народаў братэрскі саюз!*
*Наша любімая маці-Радзіма,*
*Вечна жыві і квітней, Беларусь!*

## Аўтары гімна:

**Міхась КЛІМКОВІЧ**

Міхась (Міхаіл Мікалаевіч) Клімковіч нарадзіўся 20.11.1899 г. у вёсцы Сялітранікі Барысаўскага раёна Мінскай вобласці ў сялянскай сям'і.

У 1915 г. скончыў Барысаўскае вышэйшае чатырохкласнае вучылішча. Здаў экстэрнам экзамен на званне народнага настаўніка. Настаўнічаў на Барысаўшчыне (1915—1921). Служыў у Чырвонай Арміі (1921—1923) Зноў настаўнічаў. Працаваў на партыйнай і прафсаюзнай рабоце. У 1932—1934 гг. — старшыня аргкамітэта, у 1934—1939 гг. — старшыня праўлення, у 1947—1954 гг. — літкасультант Саюза пісьменнікаў БССР. У 1943—1947 гг. быў галоўным рэдактарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР.

Памёр 5.11.1954 г.

Друкаваўся з 1926 г. Аўтар драматычных паэм: "Кацярына Жарнасек", "Адплата", драматычнай трылогіі "Георгі Скарына", лібрэта опер "Апошні вечар на хутары", "Кастусь Каліноўскі", "Песня аб шчасці", балета "Князь-возера", "На віленскім шляху", "На скрыжаванні дарог".

Аўтар тэксту Дзяржаўнага гімна БССР.

**Уладзімір КАРЫЗНА**

Уладзімір Іванавіч Карызна нарадзіўся 25.5.1938 г. у вёсцы Закружка Мінскага раёна Мінскай вобласці ў сям'і калгасніка.

У 1956 г. паступіў на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Пасля заканчэння універсітэта (1961) працаваў выкладчыкам беларускай і рускай мовы і літаратуры ў Опсаўскай сярэдняй школе на Браслаўшчыне. З 1967 г. — рэдактар, з 1969 г. — старшы рэдактар музычнага вяшчання, з 1978 г. — загадчык аддзела беларускай музыкі Рэспубліканскага радыё, доўгі час працаваў у выдавецтве "Юнацтва". Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі. Зараз — намеснік рэдактара часопіса "Крыніца".

Першы верш надрукаваў у 1956 г. Выйшлі зборнікі паэзіі: "Край мой сінявокі", "Жураўліны досвітак", "Святло ліўня", "Цеплыня", кніжкі вершаў для дзяцей, "Песні на вершы Уладзіміра Карызны" і інш.

Многія вершы пакладзены на музыку.

**Несцер САКАЛОЎСКІ**

(1902—1950) — кампазітар, хормайстар, фалькларыст. Нарадзіўся ў вёсцы Вешкі Докшыцкага раёна. Скончыў Мінскі музычны тэхнікум па класе кампазіцыі ў М. Аладава, вучыўся ў кансерваторыі. Быў акцёрам і хормайстрам БДТ-3, адным з арганізатараў і хормайстрам Ансамбля беларускай народнай песні і танца Белдзяржфілармоніі, працаваў ва Упраўленні па справах мастацтва пры СНК і г.д. Запісаў і апрацаваў больш чым 500 беларускіх народных песень, інструментальных мелодый. Сярод твораў — камерна-інструментальныя п'есы, хоры і песні на вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, П. Броўкі, М. Машары, А. Русака, М. Чарота ды інш. Найбольш папулярная "Песня пра Нёман" на верш А. Астрэйкі. Стварыў музыку Дзяржаўнага гімна БССР (верш М. Клімковіча), зацверджанага ў 1955 годзе. Імя Н. Сакалоўскага нададзена Гомельскаму каледжу мастацтваў.

# Песняру прысвячаецца

5 ліпеня ў сталічным Купалаўскім тэатры адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны 120-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Янкі Купалы.

Афіцыйную частку юбілейнай вечарыны распачаў кіраўнік Галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення пры Адміністрацыі Прэзідэнта Іван Карэнда, які зачытаў віншавальны ліст ад імя Прэзідэнта краіны. З распаведам пра цыкл купалаўскіх мерапрыемстваў выступіў міністр культуры РБ Леанід Гуляка. Пра неацэнны ўклад Купалы ў станаўленне нацыянальнай беларускай мовы нагадаў доктар філасофскіх навук, дырэктар Інстытута мовазнаўства А. Падлужны. Госці з Варшавы, Вільнюса і нават Татарстана засведчылі, што і за межамі Беларусі ведаюць нашага песняра і шануюць памяць аб ім. Так, напрыклад, у далёкім сяле Печышчы (Татарстан), дзе прайшлі некалькі месяцаў жыцця паэта, існуе і карыстаецца папулярнасцю ў наведвальнікаў музей Янкі Купалы.

Завяршыўся вечар паказам неўміручай "Паўлінкі", якая застаецца ў рэпертуары тэатра з далёкага 1943 года. На сцэну выйшаў сапраўды зорны састаў — народныя артысты Генадзь Гарбук, Марыя Захарэвіч, Генадзь Аўсяннікаў, заслужаныя артысты Наталля Качаткова і Уладзімір Рагаўцоў, а таксама таленавітая моладзь тэатра — Юлія Шпілеўская, Мікалай Прылуцкі, Алег Гарбуз, Ірына Рымарава, Андрэй Гладкі. Першы нацыянальны канал наладзіў унікальную прамую трансляцыю спектакля, так што глядзела легендарную "Паўлінку" ўся краіна.

Юбілейная вечарына — толькі адно з мерапрыемстваў, якія наладзіў Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы ў межах "Тыдня Купалавай драматургіі". 4 ліпеня на Малой сцэне тэатра заслужаны артыст Беларусі Віктар Чэпелеў (Гомельскі драмтэатр) прадставіў літаратурна-паэтычную кампазіцыю "Уладар народных дум і песень". А 7 і 8 ліпеня гледачы змаглі зноў убачыць аднойлены спектакль "Тутэйшыя".

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**




*МАГІЛЁЎШЧЫНА*

## Свята духоўнай музыкі

У абласным цэнтры распачаўся дзесяты міжнародны музычны фестываль духоўнай музыкі "Магутны Божа". У гэты раз у музычным свяце прымуць удзел не толькі каталіцкія канфесіі, але і праваслаўныя. Канцэрты пройдуць у Саборы Трох Свяціцеляў. У іх заняты Дзяржаўны камерны хор Беларусі, Дзяржаўны акадэмічны народны хор імя Цітовіча, музычная капэла "Санорус" і вакальная група "Віфлеем" з Мінска, камерны аркестр "Амадэус" з Малдовы, народны ансамбль яўрэйскай музыкі "Шалом" з Ліды, аркестр народных інструментаў Магілёўскай абласной філармоніі, музычныя калектывы з Польшчы, мужчынскі праваслаўны хор "Лик" з Расіі...

У фестывалі прымуць удзел не толькі акадэмічныя калектывы, запланаваны таксама і канцэрт рок-гуртоў.

## Гастралёры з Бранска

У абласным драматычным тэатры праходзяць гастролі Бранскага дзяржаўнага тэатра імя А. Талстога. Гастрольная праграма распачата спектаклем Р. Горына «КІН IV". Сярод пастановак гасцей з Бранска пераважаюць камедыі.

## Запалі сваю зорку

У Мінску завяршыўся фестываль для дзяцей-інвалідаў "Запалі сваю зорку". У ім бралі ўдзел звыш за 60 хлопчыкаў і дзяўчынак з 45 рэгіёнаў Беларусі. Заключны тур адбыўся ў Стайках. Магілёўшчыну на фестывалі прадстаўлялі бабруйчанка Юлія Новік, Раман Жураўлёў з Быхава, магілёўчанка Стася Хмяльніцкая, Юлія Дашкоўская з Асіповіч, Наташа Пугачова са Слаўгарада і Насця Ганчарова з Чаус. Яны прывезлі на фестываль свае малюнкі, вырабы з саломкі, мяккія цацкі і пано.Мерапрыемствы закончыліся вялікім эстрадным гала-канцэртам.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

*ГРОДЗЕНШЧЫНА...*

## Купалаўскімі сцяжынамі

У Беніне, што на Навагрудчыне, прайшло свята вёскі «Купалаўскімі сцяжынкамі». Літаратурна-музычная праграма «Бенінскія напевы» прысвячалася жыццю і творчасці Янкі Купалы на Навагрудчыне. З гэтай нагоды мясцовай сярэдняй школе прысвоена імя слыннага песняра.

**Яўген ЛАПЦЕЎ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## Юбілей Оршы

Шырока і ўрачыста адзначыла Орша сваё 935-годдзе. У мэрыі сустрэліся дэлегацыі з Санкт-Пецярбурга, Італіі, Германіі. Як адзначыў мэр Оршы Валянцін Майсяюк, юбілеі гарадоў трэба святкаваць нягледзячы на сённяшнія цяжкасці, бо гэта дазваляе больш пільна ўглядвацца ў сваю гісторыю... Дарэчы, бюджэтныя сродкі аршанцы выкарысталі толькі на добраўпарадкаванне горада, а правядзенне культурных мерапрыемстваў узялі на сябе камерсанты. Свята прайшло пад афіцыйнымі сімваламі старажытнага горада: гербам і флагам. Першы адпавядае аршанскаму гербу 1620 года, калі горад атрымаў Магдэбургскае права.

## З паэтам у сэрцы

Трыццаць пераможцаў конкурсу творчых работ «Мой Купала», абвешчанага сярод чытачоў віцебскіх гарадскіх бібліятэк, былі запрошаны на ўрачыстую літаратурна-музычную імпрэзу «Не моўкне голас песняра», якая прайшла напярэдадні юбілею паэта ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя М. Горкага.

— Наогул, у нашай бібліятэчнай сістэме з пачатку года праходзілі Купалаўскія чытанні, — гаворыць яе дырэктар Галіна Данілава. — На выніковай вечарыне выступілі паэт і літаратуразнаўца А. Канапелька, літаратар Д. Сімановіч, артысты Віцебскай філармоніі. А ў абласной газеце «Народнае слова» віцебскі краязнаўца А. Падлінскі надрукаваў цікавую падборку інфармацый, звязаных з імем Купалы на Віцебшчыне. Сярод мясцін, дзе бываў пясняр, названа вёска Старая Беліца Сененскага раёна, гарады Полацк, Орша, Арэхаўск, Віцебск і, вядома ж, Копысь, што побач з Ляўкамі.

## Выстава Бялыніцкага-Бірулі

У Віцебскім мастацкім музеі адкрылася выстава майстра лірычнага пейзажу Вітольда Бялыніцкага-Бірулі, прысвечаная яго 130-годдзю. Жывапісныя работы майстра захоўваюцца ў буйнейшых музеях, у тым ліку ў Траццякоўскай галерэі. Але самая багатая калекцыя карцін мастака — на радзіме, у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Менавіта частка гэтай калекцыі і прадстаўлена віцябчанам.

**Святлана ГУК**

*МІНШЧЫНА...*

## У пяцідзесяты раз

Сёмага ліпеня ў Мядзельскім раёне, у вёсцы Мікольцы, на беразе Нарачы побач з абеліскам загінуўшым у апошняй вайне воінам і партызанам адбыўся традыцыйны штогадовы абласны фестываль харавога мастацтва "Пеўчае поле". Сёлетняе свята песні — пяцідзесятае па ліку (першы фестываль прайшоў аж у 1952 годзе). На "Пеўчым полі" сабраліся лепшыя харавыя калектывы Міншчыны.

**Наш кар.**

## У рэвізійнай камісіі СБП

10 ліпеня адбылося чарговае пасяджэнне рэвізійнай камісіі СБП, на якім прынята рашэнне аб скліканні 24 ліпеня ў 16 гадзіне Рады СБП па неадкладных пытаннях дзейнасці пісьменніцкай арганізацыі.

## “Ад мяжы да мяжы, ад капца да капца…”

**(Купалаўскія адрасаты ў Латвіі)**

**Сталіцу Латвіі Янка Купала наведаў за некалькі дзён да пачатку Вялікай Айчыннай вайны — разам з дэлегацыяй літоўскіх пісьменнікаў 13 чэрвеня 1941 года ён прыехаў у Рыгу**



**на аўтамабілі (Пятрусь Броўка і Міхась Лынькоў прыбылі цягнікам). Паводле ўспамінаў Люцыі Тэтарэ і Анастасіі Крэйц, рыжскія беларусы і іх дзеці ўручалі кветкі дзядзьку Янку у гасцініцы “Рым”, дзе Купала пасяліўся ў нумары на другім паверсе. Гасцініца гэтая была разбурана ў 1944 годзе. Прыблізна на яе месцы на бульвары Аспазіяс, 22, цяпер стаіць гасцініца “Рыга”.**

**!4—15 чэрвеня 1941 года ў Рызе праходзіў I з’езд пісьменнікаў Латвіі. Янка Купала прысутнічаў на пасяджэннях у зале былой Вялікай гільдыі (цяпер філармонія, вуліца Амату, 6), выступаў там. Сказаў слова народны паэт Беларусі і на інтэрнацыянальным вечары ў Вялікай зале Латвійскага дзяржаўнага універсітэта (бульвар Райня, 19).**

**16 чэрвеня адбылася сустрэча кіраўнікоў нацыянальных дэлегацый у Доме творчасці ў Сігулдзе,**



**размешчаным у маляўнічай мясцовасці на беразе Гаўі.**

**У Юрмале (Майеры, вуліца Я.Пліекшана, 5/7) знаходзіцца юрмалаўская дача-музей Я. Райніса. У асабістай бібліятэцы народнага паэта Латвіі — сябра Купалы зберагаюцца і некалькі кніг, прывезеных з Мінска, з Купалавага дома. Чытаем адзін з аўтографаў, накрэслены лацінкай: *“Вельмiпаважанаму песняру Латвіі Я. Райнісу шчырапрыязны Янка Купала. Менск. 19.XI.26 г.”*. Але тут Купалы не быў. Быў у Лiелупэ: 17 чэрвеня 1941 года Купалу і іншых удзельнікаў з’езда пісьменнікаў запрасіў да сябе на дачу Аўгуст Мартынавіч Кірхенштэйн, тагачасны старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Латвійскай ССР. Гэта акуратны домік пад нумарам 1 і сёння стаіць на вуліцы 19-я лінія.**

**І яшчэ два рыжскія адрасы, дзе засталіся Купалавы сляды... На вуліцы Э. Вейдэнбаума, 2 (зараз Базніцас) у 1940—41 гадах стаяў дом, дзе размяшчаўся Саюз пісьменнікаў Латвіі, які наведаў Купала. Сёння на гэтым месцы — гасцініца “Латвія”. Побач з ёю дом № 4а — якраз такі, як той, пісьменніцкі... Непадалёк стаіць будынак, дзе да вайны на другім паверсе выдавалася літаратурная газета Саюза пісьменнікаў (цяпер вуліца Стабу, 6а). Ніжні паверх быў адведзены пад клуб маладых пісьменнікаў. У гэтым клубе 8 снежня 1940 года быў наладжаны літаратурны вечар, прысвечаны творчасці Янкі Купалы. Даклад зрабіў Я. Грантс. А. Грыгуліс у сваім выступленні, у прыватнасці, падкрэсліў: “Імя Янкі Купалы — гэта імя сусветнага маштабу”.**

**С. ПАПАР**

На здымках: *былая Вялікая гандлёвая гільдыя ў Старой Рызе; Янка КУПАЛА з Аўгустам КІРХЕНШТЭЙНАМ на літаратурным вечары ў Вялікай зале Латвійскага дзяржаўнага універсітэта.*

# Мастацтва – пакутлівае шчасце…

### ЮБІЛЕЙНАЯ ВЫСТАВА МАСТАКА І ПІСЬМЕННІКА СЯРГЕЯ ДАВІДОВІЧА ПРАЦУЕ Ў НАЦЫЯНАЛЬНАЙ МАСТАЦКАЙ ГАЛЕРЭІ.

***Сяргею Фёдаравічу Давідовічу ў хуткім часе споўніцца шэсцьдзесят. Ён вядомы нам сёння як мастак, паэт і празаік. Давідовіч сябра двух творчых саюзаў – мастакоў і пісьменнікаў. Ужо выдаў дзесяць кніг і правёў толькі ў Мінску каля двух дзесяткаў персанальных выстаў. І гэта толькі за апошнія дзесяць год, калі юрыст па адукацыі, былы палкоўнік міліцыі, дэпутат і член прэзідыума Вярхоўнага Савета 12 склікання С. Давідовіч заняўся нечакана для ўсіх творчасцю. Заняўся актыўна, са шчырасцю і зайздроснай энергіяй. У яго гарадской кватэры, якая стала сёння і майстэрняй, усё застаўлена карцінамі, бо як мастак Сяргей Фёдаравіч аддае перавагу вялікім жывапісным палотнам. С.Давідовіч асабліва падкрэслівае, што на юбілейнай выставе, якая адкрылася ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі пры БСМ прадстаўлены толькі найбольш вядомыя жывапісныя серыі. Павіншаваць з юбілеем і адкрыццём выставы С.Давідовіча прыйшлі многія афіцыйныя асобы, сярод якіх міністр культуры Л.Гуляка, памочнік Прэзідэнта РБ і начальнік галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі Прэзідэнта РБ І. Карэнда, Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт, таксама мастакі і пісьменнікі, сябры, госці з роднай Лагойшчыны. Хоць Сяргей Давідовіч не любіць даваць інтэрв’ю, але пасля адкрыцця персанальнай выставы, з задавальненнем распавёў пра свае творчыя намаганні.***

— Жыццё маё было складанае, як у кожнага чалавека майго пакалення. Вясковае дзяцінства... Вайна, калі нас, дзяцей, выратавала маці... Пасляваенная галеча, калі жылі ў зямлянцы. Пасля — вышэйшая юрыдычная адукацыя, праца ў Мінску ў міліцыі ад сяржанта да палкоўніка. Нічога з гэтага адмоўна не паўплывала на творчасць. Калі закладзена бацькамі, зямлёй, дзе ты нарадзіўся, усхваляванасць і шчырасць — табе наканавана быць творчым чалавекам. Я пранёс праз прозу жыцця любоў да матчынай мовы, літаратуры, да жывапісу. А без прозы не будзе і паэзіі. Мяне хвалюе жыццё вёскі, на выставе прадстаўлена сорак карцін, прысвечаных вяскоўцам, іх побыту. Я пісаў дзядоў і бабулек з гумарам і любоўю. Я не маляваў вёску, якая памірае. Наадварот, я згадваў дабрыню вяскоўцаў, якой значна больш, чым у горадзе. Чарнобыльскую серыю я лічу самай галоўнай у сваёй творчасці. Напамін пра бяду — самы лепшы сродак засцярогі на будучыню. Ёсць на выставе і краявіды, але гэта тэма мяне сёння менш за ўсё хвалюе, бо не дазваляе поўна выказваць свае думкі. Яшчэ адзін раздзел выставы — рэлігійна-філасофскія карціны.

**— Вельмі рэдкая з’ява, што чалавек у пяцідзесяцігадовым узросце пачынае маляваць і нават уступае ў прафесійны саюз мастакоў...**

— У жыцці нічога выпадковага не бывае. Нельга сказаць, што я ў пяцьдзесят год раптоўна схапіўся за пэндзаль. Думалася пра мастацтва і ў маладосці. У сталым жа ўзросце, калі ў мяне была сям’я, не было кватэры, не хапала сродкаў для існавання, мне ўсё роўна хацелася маляваць. Мы з жонкай і трыццаць, і дваццаць год таму хадзілі на ўсе адкрыцці выстаў. Як я зайздросціў тады мастакам і таемна думаў, няўжо я не здатны намаляваць такія ж краявіды. І саромеўся прызнацца ў сваіх думках жонцы. А калі я сам стаў ля халста ўжо як мастак, я не пасляваў занатоўваць вобразы і сюжэты, якія мроіліся ў маёй галаве. Мастацтва стала для мяне натуральнай з’явай, як і беларуская мова.

**— Тым не менш і ў пяцідзесяцігадовым узросце вы павінны былі неяк набываць майстэрства, каб мець магчымасць занатоўваць вобразы жывапіснай моваю.**

— Пяць першых год майго захаплення жывапісам я аддаў самастойнаму навучанню. Народны мастак Беларусі Уладзімір Стальмашонак падтрымаў мае намаганні засвойваць жывапіснае майстэрства без дапамогі. Калі я пачынаў свой мастакоўскі шлях, мне натуральна здавалася, што ўмею ўсё. А сёння са смехам успамінаю сваю першую выставу ў Палацы мастацтваў у 1991годзе. Пазней я зразумеў законы кампазіцыі і колераў на халсце. Не скажу, што дасягнуў дасканаласці, але малявацць стаў значна лепш. Тым не менш, ніколі не замілоўваюся сваімі працамі, заўжды адчуваю незадавальненне зробленым, а гэта ў мастацтве самы значны стымул.

**— Раней мне здавалася, што ваша асноўная тэма ў мастацтве — вясковая, тут ёсць гумар, добразычлівасць. Але на гэтай выставе я бачу разнастайнасць вашых інтарэсаў.**

— Мяне хвалююць розныя тэмы. Больш за ўсё біяграфічныя. Найперш гэта датычыць вясковай тэматыкі. Чарнобыль — гэта і асабісты, і агульны наш боль. На выставе выстаўлены далёка не ўсе мае работы, многае, магчыма, і лепшае, засталося дома. Калі чалавек ў пяцьдзесят год заняўся творчасцю, у шэсцьдзесят не спіць начамі, гэта не блазнюкоўства, гэта пакутлівае шчасце. Хапае складанасцей матэрыяльнага характару, цяжка, што няма майстэрні. У васьміметровым пакойчыку пішу палотны па два-тры метры, карцінамі да столі застаўлена зала, калідоры. Але гэта дробязі жыцця. Галоўнае, мая радасць, калі на чыстым халсце з’яўляецца твор. І тое, што я магу выказвацца і ў мастацтве, і ў літаратуры, я гэтым шчаслівы.

**Падрыхтавала**
**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

# Чарговы форум купалазнаўцаў

З усіх падзей і юбілейных купалаўскіх мерапрыемстваў адно з найгалоўных, без перабольшання, — чарговыя, шостыя Міжнародныя Купалаўскія чытанні, якія 4 і 5 ліпеня прайшлі ў Мінску ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. І на гэты раз іх арганізатарамі сталі Міжнародны фонд Янкі Купалы і Купалаўскі музей. З дакладамі і паведамленнямі выступілі звыш 30 навукоўцаў з Беларусі, Расіі, Польшчы і Літвы.

Чым жа адрозніваліся гэтыя Купалаўскія чытанні ад папярэдніх? Найперш — сваёй тэматыкай. Раней увага і беларускіх, і замежных вучоных была звернута галоўным чынам “унутр”, на вызначэнне месца і ролі Янкі Купалы ў сістэме нацыянальнай культуры. Прыгадаем хаця б назвы некаторых папярэдніх канферэнцый: “Янка Купала і “Наша ніва”, “Янка Купала — публіцыст”, “Янка Купала і праблемы беларускага самапазнання” і г.д. Цяпер жа погляд вучоных скіраваў “вонкі”. “Янка Купала і еўрапейскі літаратурны працэс” — такую назву мелі V Міжнародныя Купалаўскія чытанні.

Не трэба думаць, што раней літаратуразнаўцы зусім не ўключалі творчасць Янкі Купалы ў кантэкст еўрапейскай і сусветнай літаратуры. Уключалі, і часам даволі паспяхова. Але, думаецца, толькі цяпер, калі дзякуючы выданню Поўнага збору твораў песняра (з дзевяці запланаваных тамоў выйшлі з друку сем), Слоўніка яго мовы (з васьмі тамоў выйшлі тры), розных крыніцазнаўчых матэрыялаў мы маем нарэшце амаль поўны корпус твораў народнага паэта Беларусі і дастаткова біяграфічных крыніц, можна па-сапраўднаму ацаніць той уклад, які ўнёс і ўносіць беларускі геній у скарбніцу сусветнай, найперш еўрапейскай, культуры. Зрэшты, гэтаму спрыяе і сам час, калі можна пра многае і пра многіх гаварыць тое, што раней нельга было выказаць з-за цэнзурных меркаванняў.

Ажно тры даклады былі прысвечаны высвятленню хрысціянскіх і язычніцкіх матываў у творчасці песняра: доктара гуманітарных навук з Польшчы **Юраса Гарбінскага** (“Біблейная топіка ў творчасці Янкі Купалы, яе вобразна-тэматычны абсяг і сэнсава-канцэптуальныя функцыі”), дацэнта кафедры беларускай літаратуры БДПУ імя М.Танка **Галіны Тычкі** (“Элементы хрысціянскага светабачання ў ранніх творах Янкі Купалы”) і ст. навуковага супрацоўніка Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі **Зміцера Санюка** (“Хрысціянства і язычніцтва ў творчасці Янкі Купалы”). Да гэтых дакладаў арганічна далучылася і слова доктара філасофскіх навук Уладзіміра Конана пра “Арфічныя матывы ў творчасці Янкі Купалы”.

Шэраг выступаў быў прысвечаны купалаўска-іншанацыянальным літаратурным узаемасувязям — кантактным, генетычным, тыпалагічным. Тут падчас нават нечакана выплывалі асобныя постаці, самі літаратары. Як, напрыклад, у дакладзе прафесара з Брэста **Мікалая Мішчанчука** — “Мастацкая рэалізацыя гомацэнтрычнай мадэлі рэчаіснасці ў Янкі Купалы і Гаўрыіла Дзяржавіна”. Або ў дакладзе дацэнта БДУ **Ірыны Багдановіч** — “Творчасць Янкі Купалы і нарвежская літаратура”. Пра папулярнасць творчасці Янкі Купалы ў Татарыі і Літве расказалі дырэктар Музея Янкі Купалы ў Пячышчах, што пад Казанню, **Маргарыта Антонава** і настаўніца беларускай школы імя Ф.Скарыны з Вільні **Леакадзія Мілаш**. Нямала новага ўтрымліваліся і ў развагах вучоных на, здавалася б, ужо дастаткова вывучаныя тэмы — пра польсканамоўныя вершы Янкі Купалы (к.ф.н. **Уладзімір Мархель**), эстэтычны свет пісьменніка (прафесар **Вадзім Салееў**), сімволіку сну ў яго творах (к.ф.н. **Пятро Васючэнка**), экранную Купаліяну (доктар мастацтвазнаўства **Вольга Нячай**), творчасць Янкі Купалы ў працэсе беларуска-нямецкіх літаратурных сувязей (к.ф.н. **Уладзімір Сакалоўскі** і дацэнт БДУ **Ева Лявонава**), майстэрства Купалы-перакладчыка (к.ф.н. **Міхась Кенька**), нацыянальную ідэю ў творчасці паэта (к.ф.н. **Лявонцій Гаранін**), жанравую шматстайнасць паэзіі песняра (к.ф.н. **Тамара Федарцова**), літаратурна-палітычную дзейнасць Янкі Купалы ў 1916-1920-х гг. (к.ф.н. **Алесь Пашкевіч**) і інш.

Не была абыдзена ўвагай і паэтыка Янкі Купалы — таксама ў кантэксце развіцця еўрапейскай паэзіі. Гэтаму, у прыватнасці, былі прысвечаны даклады дактаранта Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі **Яўгена Гарадніцкага** “Рытм у паэзіі Янкі Купалы як рэпрэзентант дынамічнай структуры свету” і доктара філалагічных навук, прэзідэнта Міжнароднага фонду Янкі Купалы **Вячаслава Рагойшы** “Майстэрства Янкі Купалы — санетапісца”. Дарэчы, якраз у юбілейныя дні свет пабачыў арыгінальны зборнік санетаў песняра, куды ўвайшлі ўсе яго 22 санеты ў арыгінале і ў перакладзе на сем самых пашыраных еўрапейскіх моў — рускую, украінскую, польскую, англійскую, нямецкую, французскую і іспанскую. Падрыхтавалі зборнік **В.Рагойша** і дырэктар Дзяржаўнага музея Янкі Купалы **Жанна Дапкюнас** (яна, як гаспадыня, сваім вітальным словам і распачала канферэнцыю).

Даклады архівістаў **Аляксандры Гесь** і **Віталя Скалабана** былі пабудаваны на канкрэтных архіўных знаходках, якія пашырылі і ўдакладнілі нашы веды, звязаныя з творчасцю Янкі Купалы — публіцыста і журналіста (у 1919-1920 гг.). Некалькі цікавых фактаў з жыцця Янкі Купалы паведаміў і варшаўскі прафесар **Аляксандр Баршчэўскі**, які спыніўся на малавядомых успамінах пра песняра літаратара Юркі Віцьбіча.

Бадай, адметнай рысай гэтых Купалаўскіх чытанняў было і тое, што ў іх упершыню актыўны ўдзел прыняла навуковая моладзь — студэнты, магістранты, аспіранты, якія выступілі зусім дастойна побач са сваімі настаўнікамі і старэйшымі калегамі. Варта тут назваць прозвішчы студэнтак 4-х курсаў гістфака БДУ **Вольгі Коваль** (“Янка Купала вачамі эмігрантаў”) і філфака БДУ **Аксаны Бязлепкінай** (“Экранізацыя п’есы Янкі Купалы “Тутэйшыя”), магістранта філфака БДУ **Кастуся Піскунова** (“Купалаўскія традыцыі вершавання ў творчасці У.Караткевіча”), выпускніцы філфака БДУ **Вольгі Ляшчынскай** (“Святы і прысвяткі ў паэзіі Янкі Купалы”), аспіранткі БДПУ імя М.Танка **Ірыны Гоўзіч** (“Вяртанне да Купалы”) і некаторых іншых. Надзвычай важна, што ў надзейныя маладыя рукі пераходзіць эстафета купалазнаўства, якое жыве і — несумненна — жыцьме!

**В.КАЧАНОВІЧ**

# ДЗЕНЬ ПАЭЗІІ – 2002

## Пятро ПРЫХОДЗЬКА

## Неаддзельнасць ад свету

### Балада пройдзенага шляху

*І мяне на свет жыццё гукнула,*
*Каб яму служыў я за пасла.*
**Аляксей ПЫСІН**

Свае старонкі прагартаў
Мой век пражытымі гадамі, —
Ды знічкай згаслай ён не стаў,
Гудзе над шляхам правадамі.

Не быў глухім салдацкі шлях, —
Бы з чуйнасцю музычнай гамы
Мне ўсё па тых жа правадах
З удзячнасцю шле тэлеграмы.

Я чуў і зблізку і здаля,
Як вораг на зямлі лютуе,
І ўсюды, дзе мая зямля,
У сэрцы нёс краіну тую.

Праз бітвы крочыў разам з ёй,
Не аддзяляўшыся да свету.
Усім, хто працай жыў сваёй,
Жадаў вясны прыгожай цвету.

І аддзяліць салдат не мог
Сябе ад сцяга баявога,
Ад тых абпаленых дарог,
Дзе рдзела кроў, як чырвань глога.

Калі мялі вакол снягі,
Ці гром прагрукваў подых весні,
У дом бацькоўскі дарагі
Вяртаў свае я думы-песні,

І, каб яго не даць на злом,
Нёс словы родныя па свеце,
Ў якім мяне сваім пасло́м
Лічылі ўсе бацькі і дзеці.

Я ўсё да кроплі аддаваў
Таму з часоў далёкіх дому.
Ні перад чым не пасаваў,
Не здраджваў у бядзе нікому.

Я помню, як яшчэ малым
Свайму маліўся з дзедам Богу.
Паміж наступным і былым
Мне ранак азараў дарогу.

Ўслаўляючы працоўны люд,
Я пакланяўся долі ўласнай.
Пад абразамі хаты кут
Святіўся свечкаю нязгаснай.

Там дзед хрысціў і гадаваў
Мяне, узносячы над вёскай.
Ён і дачцы сваёй даваў
Імя Марыі — Маці Боскай.

То ж маці родная мая
Была такім названа імем.
Не раз пра гэта згадваў я
Ў свяшчэннай споведзі Радзіме.

Не мог я спадмануць свой лёс,
Хоць і не быў ён адназначным.
У сэрцы тое ўсё пранёс,



Што ветрам дыхае сучасным.
Між рознага быльля, трысця
Слядоў маіх нічым не сцерці.
Я ўваскрашаўся з небыцця,
Хоць неаднойчы мог памерці.

Ускрыльваў зноў, як вольны птах,
Шырэй разгортваючы крылы,
І свой далей працягваў шлях
Праз вогненныя небасхілы.

Пасля сяўбы, што праз агонь
Праносіў на палі, ў дубровы,
Пры ўборцы зерне на далонь
Мне колас асыпаў жытнёвы.

Заўсёды з роднай старанай
Дзяліў я мары і натхненне.
Ў мяне век цэлы за спіной,
А я цаню жыцця імгненне.

Калі ж шлях гучнаю трубой
Апошнюю сыграе гаму,
Адтуль, дзе я хадзіў на бой,
Шлях адаб'е мне тэлеграму.

## Іван ЛАГВІНОВІЧ

●

У вёсцы,
дзе ўжо не жывуць і буслы,
ля хаты з сляпымі вокнамі
Жанчына сушыла
пад сонцам вясны
Касынку, ад слёзу намоклую.

Квітнелі сады —
не адвесці вачэй!
І як ёй было не млосціцца?
Спытала:
– Навошта так пышна цвіцеш,
радзіма мая — гаротніца?

●

Адыду раптоўна ў іншы свет,
дзе няма пранізлівага болю.
Застанецца кветкаю ў траве
ціхая душа мая з табою.
Днём пагодным будуць з яе піць
сонечны нектар чмялі ды восы.
Прыглядайся, каб не наступіць
ні абутаю нагой, ні босай.

### Гавань

Вачам душы прысніцца гавань
без берагоў і без вады.
…У верасні дзядок кульгавы
збірае ў кошык жалуды.

З рукі адпушчаная кульба
прыпала вухам да камля
мажнога, шацістага дуба,
нібы да бацькі немаўля.

З недасягальнасці высокай,
са згоды дзятла і шпака,
траскучым лямантам сарока
наўмысна цэліць шчанюка.

Крыўдлівы цюцька гамай "гаваў"
выказвае ёй нелюбоў
на ўсю міжлесавую гавань,
пад ветразямі трох дубоў.

…У хлопчыку, што памагае
збіраць дзядулю жалуды,
сябе наўрад ці я пазнаю:
гады – між СЁННЯ і ТАДЫ.

*г. Баранавічы*

## Мікола СТАРЧАНКА

### Трывожны звон

Трывожны звон. Разбілі лета
Крылом імклівыя стрыжы,
Свой бег суцішыла планета
На пераходным рубяжы.
На поўдзень паплылі аблокі,
Як невыносная туга,
Хавае далягляд далёкі
Празрыста-кволая смуга.
Сланечнік галаву схіляе
Ледзь не да самае травы,
Здаецца, ён у ёй шукае
Асколкі летняй сінявы.

*г. Гомель*

## Алесь МАКРАЦОЎ

### Восьмае пачуццё

Гледзячы на зоркі,
што загадкава свецяцца ў начным небе,
я задумваюся над пабудовай сусвету.
Спрабую асэнсаваць
яго ную бясконцасць.
Спрабую спасцігнуць бязмежжа.
Спрабую і… не магу.
Звыклыя адзінкі вымярэнняў,
якія на Зямлі
фізічна адчувальныя, нібы
камяні ў руцэ, —
кінутыя ў бяздонне, не сустрэўшы
там перашкоды, —
імкліва аддаляюцца. Знікаюць з вачэй.
Робіцца космасам.
Бясконцасць немагчыма змерыць тым,
што мае пачатак і мае канец…
Бязмежжа немагчыма ўявіць
з дапамогай абмежаваных звестак…
Сусвет не ўкладваецца ў маёй галаве
да тае пары, пакуль усприймаю яго
не столькі духоўна, колькі фізічна.
Пакуль адасобліваю яго ад сябе.
Але розум падказвае мне, што
пяць знешніх пачуццяў:
зрок, слых, нюх, смак, пачуццё дотыку, —
памеры тае прасторы, у якую ён
змешчаны ад пачатку.
Дух кажа мне: мяжа сусвету існуе
толькі ў табе самім.
Як шкарлупінай яйцо, сусвет
для чалавека
адмежаваны ягонымі
знешнімі пачуццямі.
Шостым пачуццём.
Сёмым пачуццём — розумам.

## Ганна ШКОДА

●

Штосьці сёлета зарана
Прыляцелі жаўрукі.
Я на іх зачаравана
Пазіраю з-пад рукі.
Пэўна, зблыталі штось птушкі,
Заспявалі не ў пару, —
Бо і рыжыя вяснушкі
Не абселі дзетвару…

### Мяцеліца

Дыхнула ноч марозная, —
І ўсе шляхі замецены.
На шкле карункі розныя
У срэбна-белай квецені.
На вулку выйду раніцай —
Ні следу, ні сцяжыначкі,
Віхураць, кружаць радасна
Бялюткія пушыначкі.
Махне сасна галінаю —
Сняжком сухім падзеліцца…
Бяжыць-імчыць раўнінаю
У белы свет мяцеліца.

*г. Гомель*

## Ніяна ЗАГАРЭЎСКАЯ

●

Розум прыземвае думы,
Сумна думам маім на зямлі.
Сэрцу адвечнае марыцца,
вольна марам маім —
у прасторы нябёсаў
лунаюць яны.
Як вяртаюцца да мяне
мае мары —
з думамі сустракаюцца.
Паміж небам і зямлёю —
часовы прыстанак душы.

### Маленне

Смутак мой, што нікому не выкажу,
да Цябе прынясу.
Сярод блізкіх — няма суцяшэння,
сярод верных — няма пастаянства,
паміж братняй любоўю — зняваға,
каля сэрца спагаднага — асуджэнне.
З разуменнем прыходзяць, а дзівяцца,
павучаюць, ды не навучаюцца…
Знішчы смутак, цяжкі, нежаданы.
Да Цябе набліжаюся,
Табе спавядаюся,
і Табе прысягаю ў вернасці,
бо ў Табе — суцяшэнне,
бо ў Табе — пастаянства,
Ты прымаеш з любоўю бязмежнаю,
разумееш.
Знішчы смутак-тугу.

●

Кволы агмень —
не нагрэешся,
кволы агмень —
удалеч шлях невідзён.
Кволы агмень —
нараджаецца вера.

*Стаўбцоўскі раён*

## Наталля ШКАПІЧ

Першы свой верш Наталля Шкапіч напісала ў 1994 годзе, калі працавала ў вясковай школе настаўніцай польскай мовы і музыкі. Піша на польскай і беларускай мовах. Некалькі разоў удзельнічала ў міжнародных конкурсах польскай маладой паэзіі і прозы ў Варшаве і Апочне.

### Смерць

Сэрца забітае каханнем
Не хацела нават адкрываць вочы
Не хацела бачыць гэты звар'яцелы свет
Не магло ўжо болей жыць
без надзеі
Чорныя цяжкія слёзы
падалі з плачам
на мёртвую траву
на цвёрдую зямлю
на аркуш без слоў
і замяняліся ў горыч
Салёная ноч прыходзіла
на змену бязлітаснаму дню
Дзіцячы плач не змог нарадзіцца
Бо быў не маім болем
і не маім шчасцем
І ніхто ўжо не будзе прагнуць
майго свету
І сама ўжо ня прагну яго.

●

Ты ў восені спытай Яго імя,
Яна, свавольніца, аб ім вятрам спявае.
Лістотай цёплай яго рукі ахінае
А разам з ёй — кахаю Яго я.

## Алесь ЖУРАЎСКІ

### Вярба

Адбітак часу на старой вярбе —
Кара, нібы скурына нежывая.
Ствалы пасохлі. Але ж дзе-нідзе
Ды зіхаціць галінка зеляная.

І кожная, як парастак надзеі,
У неба цягнецца бадзёра праз гады.
Пакуль няма зімовае завеі,
Галінкам зіхатлівым не бяды.

Адбітак часу… Верыце ці не,
Што гэта разважанне пра мяне?

*г. Лепель*

## Віктар ТРУСЕВІЧ

●

Адплывае гадоў караван.
Непрыкметна падкралася восень.
Хваляванне, сустрэча, падман…
Колькі зведаць іх мне давялося!

Не ўцячы ад памылак былых.
Ды ўсвядомлю і я назаўсёды:
Не адведаўшы горкі палын,
Не спазнаеш ніколі смак мёду.

●

Меў рацыю мудры Шэкспір
У словах, што сталі крылатымі:
Заўсёды ў ліхія часы
Сляпыя ідуць за вар'ятамі.

*Нясвіжскі раён*

## “Беларуская думка”, № 5

У раздзеле “Літаратура і жыццё” змешчаны вершы М. Стрыгалёва і заканчэнне “Ненапісанай аповесці” І. Пташнікава. А. Скарабагатчанка выступае з артыкулам “Музычныя інструменты ў люстэрку этнаграфічных даследаванняў”. Нарыс А. Марціновіча “Ты Паўлінка мая, душа ласкавая...” прысвечаны 120-годдзю з дня нараджэння Я. Купалы і 80-годдзю яго неўміручай камедыі “Паўлінка”. Падрабязна прасочваецца творчы лёс гэтай выдатнай п’есы, згадваюцца асноўныя яе пастаноўкі. М. Шэлехаў (“Жыве Васіль Цёркін”) зазначае: “У Васіля Цёркіна — юбілей. Вечна маладому герою і балагуру — 60. Дакладней, кнізе Твардоўскага пра яго. Не памірае салдат: і Радзіму адстаяў, і на тым свеце пабываў, і зноў жыве сярод нас — у яраслаўскім гарадку Мышкіне”. “Якая культуралогія нам неабходна?” — гэтае пытанне задае і спрабуе даць на яго адказ І. Леваш.

## Падарунак роднаму гораду

У Даўгаўпілсе, у Цэнтры латышскай культуры прайшоў сольны канцэрт заслужанай артысткі Чачэна-Інгушэціі, салісткі Віцебскай філармоніі Валянціны Шылавай. Дзяцінства Валянціны Мікалаеўны прайшло ў Даўгаўпілсе, тут жывуць яе бацькі, сястра і брат. У канцэрце прагучалі песні і рамансы на рускай, італьянскай, латышскай і беларускай мовах. Тут была выканана песня і даўгаўпілскіх аўтараў Маі Калныні і Станіслава Валодзькі — “Зязюля”. Вельмі цёпла сустракалі прысутныя сваю знакамітую зямлячку. На гэтай сцэне яна ўпершыню выступала чатырнаццацігадовай дзяўчынкай. Цудоўна вяла вечар і акампаніравала не менш чароўная Ірына Гумінская, таксама, як і В. Шылава, жыхарка Оршы. Са словамі ўдзячнасці да таленавітай спявачкі, уладальніцы лірыка-драматычнага сапрана, звярнуўся віцэ-консул Генеральнага консульства Расіі ў Даўгаўпілсе Уладзімір Нікашын. С. Валодзька прачытаў свой верш, прысвечаны Валянціне Шылавай. Канцэрт насіў дабрачынны характар (уваход быў свабодны) дзякуючы падтрымцы Даўгаўпілскай гарадской думы і некалькіх мясцовых фірм і арганізацый.

Н. К.

## Марскія хвалі на... Пухаўшчыне

Рэдка каго з беларускіх мастакоў можна залічыць у шэрагі марыністаў. Так ужо распарадзілася матухна-прырода, што палі нашы мяжуюць з пералескамі. А самая вялікая вада — азёры і рэкі. І ўсё ж гэта не сталася памехай для мастака Леаніда Леўчанкі, які выразна выявіў сябе захопленым у марскі палон жывапісцам.

Нарадзіўшыся ў Мар’інай Горцы, на пухавіцкай зямлі, Леанід Леўчанка скончыў Адэскае мастацкае вучылішча. Лёсам яго, творцы з беларускай глыбінкі, сталася мора. Аглядаючы марыністычныя работы земляка — а ў Мар’інай Горцы ў карцінnай галерэі разгарнулася выстаўка мастака Леаніда Леўчанкі — неўспадзеў гледачы праводзілі паралелі з творчасцю славутага Айвазоўскага — “Яхты ў моры”, “На рэйдзе стаяць караблі”, “Свежы вецер”, “Марскі прыбой”... Здавалася б, так проста маляваць мора: вада і чайкі, неба... Не, зусім не проста. Гадамі свайго творчага сталення заплаціў Леанід Фёдаравіч за тое, каб знайсці адпаведныя колеру вады фарбы. Глядзіш на “Марскі прыбой” — і, здаецца, адчуваеш салёныя брызгі на твары.

Застаецца дадаць, што выстаўка Леаніда Леўчанкі ў Мар’інай Горцы супала з 70-годдзем з дня нараджэння мастака. Прызнаннем яго творчых заслуг з’яўляецца і тое, што работы нашага земляка захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, фондах Беларускага Саюза мастакоў, Магілёўскім абласным мастацкім музеі імя П. Масленікава.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ

## Уладзімір ШПАДАРУК

●

*Не атрымалася жыццё,*
*Не атрымалася.*
*Над лёсам восені лісцё*
*Ўжо захісталася.*

*Не дасягнуў, не асядлаў*
*Вяршынь, што клікалі.*
*У цемру жудасную ўпаў,*
*Хоць вока выкалі.*

*Жаданні, мары, нібы дым,*
*У небе згінулі.*
*Пытанне: быў я ці не быў?*
*Другім пакіну я.*

●

*Я гэты верасень люблю,*
*Бо ў ім, каханая, аднойчы*
*Сышла ты з неба на зямлю*
*І зазірнула сціпла ў вочы.*

*Зліліся ў несканчоны шлях*
*Сцяжынкі нашыя пад сонцам.*
*Я знаю, жыць яму ў вяках,*
*Я ведаю, што ён бясконцы.*

*Мне кожны дзень і кожны вечар*
*Нагадвае пра гэта Вечнасць.*

●

*Ты не такая, як усе.*
*Ты — не такая.*
*Ты мая восень залатая.*
*Ты не такая, як усе.*
*Даверлівая і святая,*
*Свой крыж пакорліва нясеш.*
*Ты не такая, як усе.*
*Ты — не такая.*

### Не азірайся

*Не азірайся па баках,*
*Пакуль наперад*
*Нясе цябе на крылах птах*
*Любві і веры.*

*Пакуль у восені ў вачах*
*Няма адчаю*
*І дрэнна спіцца па начах*
*Хіба што ў маі.*

*г. Рагачоў*

## Алесь КАСЦЕНЬ

●

*Уцякаю без пэўнае мэты,*
*Падуладны не лёту планет,*
*У празрыстасць, якую дагэтуль*
*адчуваў па бруенні прыкмет.*

*Гэта грукат — яшчэ навальнічны,*
*Гэта водбліск — заранкі яшчэ,*
*Гэта — рэчка, якая крынічна*
*Ад мяне ў недасяжнасць цячэ.*

*І па ёй, і па ёй аж да мора,*
*Аж да мора (якога няма?)*
*Я сплаўляю і роспач, і гора...*
*Разумею, што гэта дарма.*

*Разумею: насуперак плыні*
*І прыродным законам назло*
*Не пакіне мяне, не пакіне*
*Тое ўсё, што са мною было.*

*І, прымаючы хвалю насустрач*
*З таго мора (якога няма?),*
*Гавару: я з табой неразлучны,*
*Лёс мой, воля мая і турма.*

●

*Кашу ў садку я пад ігрушай,*
*Што ўжо здзічэла назаўжды,*
*І сам сабе прызнацца мушу:*
*Няма ранейшае хады.*

*Кладуцца ціхія пракосы,*
*Іскрыцца збітая раса.*
*Траве ўсё ж выспець удалося,*
*Таму не страшная каса.*

*Няхай метал з шыпеннем рэжа*
*Сцябліну аж ля караня —*
*Душа яе пяе ў бязмежжы,*
*Бо ўжо даспела травіна.*

*Душа травы, душа ігрушы,*
*Душа хаціны нежылой,*
*Калі я ўслед за вамі рушу*
*Да новай явы ад былой?*

*І недаспелай травіною*
*Да той крыніцы прыпаду*
*З гаючай ці з другой вадою...*
*Ды незажураны пайду.*

●

*Гэты дзень, які пачаў шчаслівa,*
*Па якім да вечара іду,*
*Хай не ператорыцца ж у млiва,*
*Не прымуціць светлую ваду.*

*Як у гэтым свеце злосці многа!*
*І, пераступаючы парог,*
*Памалюся на святло, нябога,*
*Каб сюды вярнуцца сёння змог,*

*Каб сюды з дарогі ўкамянелай*
*Не прынёс ні сцюжы, ні маны —*
*Хаце пад страхою белай-белай,*
*Хаце, дзе свіцяцца два вакны.*

*На адным — там грубку цепліць маці —*
*Цьмяны водбліск ласкі і цяпла.*
*На другім — ад абразоў у хаце —*
*Толькі-толькі кропелька святла.*

## Сташка ГРЫНІЧ

●

*Калісьці была я*
*расхрыстаным дрэвам.*
*Сонца і вецер*
*сэрца кранալі,*
*перабіралі,*
*як пальцы каралі,*
*думкі і вершы,*
*галіны і нервы.*
*“Будзь, як усе!” —*
*паўтараў ты штовечар.*
*Раслі, наплывалі*
*твае ўгаворы*
*агнямі Венецый,*
*Эдэмаў, Гаморы*
*і жоўтых —*
*высока ўзнесеных свечак.*
*У вечнасць вярталі*
*знаёмыя словы...*
*Ты сам ім*
*пад час той зімовы —*
*ці верыў?*
*У цёмным кутку*
*іржавее сякера*
*крывёю*
*расчэпленых слоў...*
*выпадковых.*
*Ты думаеш:*
*“Вось і жыццё паламаў.*
*Ну, што з яе —*
*з дрэва —*
*у жыцці чалавечым?”*
*А праўда адна:*
*у халодны той вечар*
*згарэць для цябе*
*я схацела сама.*

### Сястра знічкам

*Заблудным зоркам —*
*двойчы паміраць.*
*Хай травень вее дні*
*жаўтавым зернем.*
*Закон быцця спрадвечнага*
*нязменны:*
*заблудным зоркам*
*двойчы паміраць.*
*І боль аднойчы*
*можа стаць святлом...*
*Ты не паспееў*
*жаданне загадаць?*
*Як гэта страшна:*
*ведаць і чакаць,*
*што боль аднойчы*
*можа стаць святлом!*
*Чырвоным ранак*
*меціць сонцу шлях,*
*А ты — усмешкай —*
*словы бездакорныя.*
*Тут, на Зямлі,*
*сястра я знічкам*
*кроўная:*
*Вазьмі ж далонь маю...*
*Ў шурпатых мазалях.*

*г.Лепель*

## Алесь ДУБРОЎСКІ-САРОЧАНКАЎ

### Страшна

*Сусвет прагнае паглядам:*
*пустыя вачніцы*
*глядзяць праз цябе,*
*і маўчанне ляціць наўздагон.*
*У гэтым натоўпе,*
*што спіць і прачнуцца баіцца,*
*так страшна ўявіць хоць*
*на момант, што гэта не сон.*

*Так страшна заўсёды і гэтак*
*штораз непрывычна*
*вачмі сустракаць асенняга*
*неба пагляд.*
*І золата колькі б ні кідаў*
*пад ногі кастрычнік,*
*ілюзій няма — за ім*
*прыпаўзе лістапад.*

*І ў гэтым натоўпе, дзе*
*кожнаму страшна прачнуцца,*
*таемная думка ўвесь час*
*неадчэпна дзяўбе:*
*схавацца б дзе-небудзь,*
*у нейкім куточку прыткнуцца,*
*каб гэты халодны сусвет*
*не заўважыў цябе.*



Аксакалы: Аркадзь Куляшоў, Міхась Лынькоў, Віталь Вольскі, Максім Танк



Эдуард Акулін: і словам, і песняй

Дзіна ДУДЗІНСКАЯ

## Пялёсткі жывой вады

Безліч часу
Прыйшлося ісці
Па дарогах жыцця,
Утуліўшы ў грудзях
Ад лёсавай непагадзі
За каўнерыкам плоці
Пурпуровую кветачку
Безабароннага сэрца...

І — цудам данесці
Да крынічных слоў:
– Я так цябе шукаў!
Не дай мне, Божа, страціць!

Вазьмі ж маю кветачку
У жывую ваду
слоў тваіх.

•

Г. Тычцы

Развітваючыся, мне вельмі
Шчымлівілася ў шчаку

Цябе пацалаваць.
Засаромелася, спалохалася,
Стрымалася чамусьці.
Аддаляючыся,
Зашкадавала, занаракала

За недазвол сабе...
Цягам доўгай
Якубаколасаўскай падземкі
Усё вярталася мне
Да цябе

Падарыць
Кветку шчырасці...
Ды ўсё баялася мне
Недарэчнаю быць...
Дзень гэты
так і сышоў

З тым неадбытым
Неабжытым імгненнем.

Калі вярнуся
З зямных вандраванняў
Да Бацькі Дамоў —
Як глядзець буду,
Стоячы побач з Ім
На ўзгорку Быцця,
На той дзень
З тваёй
Мной не пацалаванай шчакой?!

•

Не ўмею ўвішна жыць.
Не спраўляюся, як заўсёды,
з жыццём.
Засыпае лёс,
як дол — лісцем,
снегам ці
вулканічным попелам — да
немагчымасці зазелянець
і заквітнець наноў, —
дробным смеццем
дробных спраў,
невялічкіх падзей,
бесталковай таўкатнечы людзей.
І...
не маю сілы прарасці
праз гэта ўсё.

## Пакаянне

Вось стаю
Перад Табой
Каля іконы
У доме маім.

Знявечана цела маё
Душэўнае —
Бізунамі грахоў,
Пасцёгана прыгажосць
Слаўнай дачкі Тваёй,
Госпадзі.

Вось стаю
Перад Табой
Каля іконы,
Нематою працятая.

І толькі вочы маю,
Дзе бруіцца
Чыстая любоў
Да Цябе, Госпадзі.

...Вочы маю
сказаць...

Вось стаю
Перад Табою
І відна Табе
Душа мая наскрозь.

І толькі вочы маю,
Каб паглядзеўшы ў іх,
Ты ўсё яшчэ..!

Любіў мяне,
Госпадзі!

Алена ІГНАЦЮК

## Сінія хвоі

Сінія хвоі...
Трэба ж такое...
Выбеглі з лесу —
у жыта святое

Побач. На ўзлеску.
Росна. Бярозна.
Вытанчыў фрэску
нехта нябёсна:

з лікам Мадонны
ў блакітным хітоне...
Хвоі спынілі
пагляд на Мадонне...

Німб каласіцца і макавее.
Болей не сніцца хвоям здавея...

## Верасы

А верасы... маёй душы
цвітуць не ў час, цвітуць зімою.
Стаю на тоненькай мяжы —
паміж сабою і табою.

Цябе як быццам не было...
Тваім суцешылася ценем.
Мяне кудысь у лес вяло,
бо верасы жыцця хацелі.

І ружавелі маразы,
каб ратаваць маю надзею.
Бы хтось дарыў мне верасы
ў перадкалядную нядзелю.

Крумкач ссінелы на мяжы...
Здалося мне, маўчаў табою...
Ды верасы маёй душы
згубілі крумкачову мрою.

## Ля згубленай хаты

Жнівень багаты,
як Дзій з "Іліяды", —
госць на парозе
згубленай хаты.

Жніўныя сваты,
бы цыганяты...
Гоняць табун белых коней
у лес.

Спас дзіваваты,
ветрам наняты,
коняў пільнуе: на дрэва залез.

Чмель паласаты
ля згубленай хаты...
Жоўты павук, залацісты камар...
І кацяняты, і ваўчаняты...
Сны свае водзяць па жэрдачцы мар.

Зніклі хвіліны
ля згубленай хаты.
(Толькі што, побач,
іх многа было?!)
Дзень мой спыніўся —
глухі і гарбаты.
Памяць баліць —
як парэзала шкло...

Раптам аднекуль
пяскі наляцелі,
вестку чароўную хочуць сказаць:
хату маю — з залатой акварэлі —
нейкі самотнік пачаў маляваць.

Алесь БАБАЕД

•

Бы крамсануў крумкач крылом —
Сарваўся чорны цень з пралому,
Што між аблокаў над сялом,
І выцяў звар'яцела громам.

І гнаў мяне злавесны дух,
Душу маланкі праціналі,
І песні парастак патух,
А дабрадзеі замаўчалі.

•

Праз родныя Чаўнышкі, праз гады
Свяча струменіць — рэчка-чараўніца.
Я да яе завітваю заўжды
І радасцю, і горам падзяліцца.

Паволі прабіраюся туды,
Дзе неяк у маленстве мне здалося,
Што цешыцца вясёлка ля вады:
Чым я бліжэй — яе далей адносіць.

Сцяжынкай уздымуся і рукой
Я дакрануся аж да небакраю.
Міраж дзяцінства, зноў ён нада мной,
Але далонь, як і раней, пустая.

•

На бераг, спавіты туманам,
Іду, не спыняю хады.
Па сцежках даўно зааранах
Навошта іду я туды?

Мне вецер шпурляе пад ногі
Лістоты халодную медзь.
А сэрца баліць да знямогі,
А сэрца трывае ледзь-ледзь.

Вярэдзяць душу успаміны —
Прычын для самоты стае.
Глядзіць, нібы маці, Айчына
З дакорам у вочы мае.

•

Жыцця адмерана палова,
А быццам і не так даўно
Зусім, здаецца, не сурова
Ноч падцікоўвала ў акно.

А за зялёнаю вярстою,
Дзе калісь мой згубіўся след,
Калыша ніва збажыною
І закалыхвае сусвет.

Арцём АРАШОНАК

•

Слёзы дажджу
Чырванеюць на арабіне.
Чырванеюць ноччу
Ад асенніх кропель
Вочы бяздзетнай жанчыны.

•

Вада каляіны
Млечным Шляхам здалася
Сёння вяскоўцу.
Да вечнасці ён ідзе
Далёка за далягляд.

•

На старым крыжы
Маланка пакінула
Глыбокі след.
Так на сэрца кладуцца
Радкі добрага верша.

•

Старая дарога
Блукае сярод дрэваў,
Шукае адказу
Сярод апалага лісця:
"Дзе Млечнага Шляху канец?"

•

Вясновы вецер
Першых кветак пялёсткі
Пацалункам зрабіў.
Раптам сэрца цнатлівае
Напоўнілася каханнем.

•

Туліць галаву
Маўклівы сівы верас
Да пажарышча.
Можа, патухлыя вуглі
Старасць яго адагрэюць?

•

Квецень лета
Звабна мяне сустракае
Ліпавым мёдам.
На світальным кірмашы
Цэбрыкі з сонцам.

г. Віцебск

Аляксандр ДАЛІМАЕЎ

## Мая дарога

Не ўмею доўга быць шчаслівым.
У сцішанай душы спалох
Расце, вяртае нецярпліва
За пераступлены парог.

Век працаваць. Забыўшы годнасць,
Цягнуць без скаргаў лёс нікчэмны,
З маленства звыклы, горкі, родны,
І ўдачы час чакаць дарэмна —

З такім раскладам і пямру...
Надзеям матчыным не збыцца,
Каб шпарка крочыў я ўгару,
Уладкаваўшыся ў сталіцы.

За справай не лічыў гадзін
І памятаў закон і Бога —
Да шчасцем лашчаных мясцін
Не вывела мая дарога.

Мікола ЛЯШЧУН

•

Круціла стылая завея.
Дарогу снегам замяло.
Хаваць старую Пелагею
Прывезлі ў роднае сяло.

Каня спынілі на хвіліну
Сярод зачэзлага сяла.
Тут у шчаслівую часіну
Калісь нябожчыца жыла.

Капалі дол, як чужаніцы,
Вакол застыў нямы прастор,
Не галасілі маладзіцы,
Адно стагнаў радзімы бор.

Пустыя, цёмныя акенцы.
Жаўцеюць свежыя груды.
І едуць зноў перасяленцы
Дамоў, ды толькі на клады.

•

Азірніся,
спыніся,
пакліч,
запытайся аб шчасці і бедах.
Ты адчула душы маёй кліч.
За табою пакрочыў я следам.
Я пакрочыў насустрач агню.
Хай душа да цяпла
прыхінецца.
Я парушыў тваю цішыню,
разарваўшы на часткі сэрца.
Шлях твой светлы азорвае Зніч.
Прычаруй закаханым паглядам.
Дай мне кроплю салодкага яду.
Азірніся,
спыніся,
пакліч...

г. Лагойск

Таіса МЕЛЬЧАНКА

## Прычасце вернасці

Зноў праціскае боль, нібы страла, —
Мярцвеюць душы без агню святога.
Мая Радзіма, ты ў мяне ўвайшла
Цяплом пяшчоты з роднага парога.
Ты для мяне — як цэркаўка, як храм.
Мне годнасці тваёй стае заўсёды.
Адзіная, нялёгка сёння нам.
Не згорбімся ж,
бо крэмнявай пароды.
Я з рук тваіх прычасце прыняла,
Твой крыж святы я з верай цалавала.
Як поле жытне, шчодрай ты была —
Сваё мысленне мне пералівала.
Малюся за цябе на абразы,
Анёлам светлым маці выплывае.
Ці не таму, што блізка да слязы?
Яна ўва мне, як ты, мая святая.
Я на агні любві душу спалю.
Ты ж застанешся для яе адзінай.
Я веліч веры іншым пералью
І песняй уваскрэсну лебядзінай.

г. Гомель





## Цёплы вечар

Цёплым і сонечным быў вечар на вуліцы і такі ж — у Белым зале Даўгаўпілскага раённага дома культуры "Varpa". Тут нядаўна прайшоў аўтарскі вечар Станіслава Валодзькі, дзе прэзентаваліся яго зборнікі вершаў "Памяці гаючая трава", "Чудесный котик" і "Калыханкі і пацешкі для Антошкі і Алежкі". Песні і рамансы на вершы С. Валодзькі кампазітараў А. Сняткоўай, А. Рудзя, Г. Галіцкага, М. Калныні, М. Яцкова выконвалі дзіцячы ансамбль 1 пачатковай школы, беларускі ансамбль "Купалінка" г. Даўгаўпілса, салісты С. Піманаў, М. Калныні, П. Прозар, В. Слаўінская, Н. Рахманава і В. Шылава. Сыны С. Валодзькі Алег і Антон прачыталі вершы бацькі. З прывітальнымі словамі выконваючы абавязкі генеральнага консула Генеральнага консульства Беларусі ў Даўгаўпілсе. Аляксандр Концкі, дэпутат Даўгаўпілскай гарадской думы Ірэна Фолкмане, прафесары Даўгаўпілскага універсітэта Эдуард Мекш і Людміла Цімошчанка, дырэктар Краслаўскага дома культуры Язэп Дабневіч. Хлеб-соль на ручніку паднесла паэту салістка Віцебскай філармоніі Валянціна Шылава. Паэты Павел Макаленкін і Яўген Голубеў прачыталі свае вершы, прысвечаныя калегу па пяры. Лірычна і эмацыянальна вяла вечар шчырая беларуска Яўгенія Гуляева. Гучаў тут і "Паланез Агінскага" ў выкананні скрыпача Мікалая Слюсара. Садзейнне ў правядзенні вечарыны аказалі вядомыя даўгаўпілскія фірмы і Даўгаўпілская гарадская дума.

## Купава і Караткевіч

З 15 чэрвеня па 17 ліпеня ў гарадской выставачнай зале Оршы праходзіць выстава твораў вядомага графіка, кіраўніка творчай суполкі "Пагоня" Беларускага саюза мастакоў і ўраджэнца Оршы Міколы Купавы.

На выставе экспануюцца партрэты гістарычных асобаў Беларусі і карціны на адзіную тэму — ад паўстанняў на чале з Тадэвушам Касцюшкам і Кастусём Каліноўскім да Слуцкага збройнага чыну. У творчых планах Міколы Купавы — стварэнне цыклу твораў, прысвечанага свайму земляку пісьменніку Уладзіміру Караткевічу.

К. П.

## Сусветная слава Мірскага замка

9 ліпеня замкавы комплекс "Мір", што ў пасёлку Мір Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці, атрымае афіцыйнае пасведчанне ЮНЕСКА аб уключэнні гэтага помніка беларускай архітэктуры ў Спіс сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны.

Уручэнне ганаровага сертыфікату адбудзецца пры ўдзеле генеральнага дырэктара ЮНЕСКА К. Мацуура і Прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі.

Мірскі замак — гэта адзінае, чым мы пакуль прадстаўлены ў Спісе сусветнай культурнай і пыроднай спадчыны. Праўда, у ім яшчэ фігуруе Белавежская пушча, але яна рэпрэзентуе там адначасова і Беларусь, і Польшчу. Дарэчы, зараз абодва бакі (пакуль на ўзроўні пражэкту) разглядаюць магчымасць падаць да ЮНЕСКА заяўку, каб у згаданы Спіс сусветнай спадчыны быў уключаны таксама Аўгустоўскі канал, які працякае і па нашай зямлі, і па польскай тэрыторыі. Гэта магло б паспрыяць рэканструкцыі беларускай частцы каналу працягласцю ў два дзесяткі кіламетраў, якая (у адрозненне ад польскай) знаходзіцца ў занядбаным стане.

К. П.

**Мікола Маскевіч жыве ў г. Мядзел, працуе ў раённым аддзеле адукацыі. З ім мяне аднойчы пазнаёміў яго зямляк Адольф Варановіч. А потым я пазнаёміўся і з Міколавымі вершамі. Радкі нарачанскага аўтара кранулі мяне сваёй чалавечай занепакоенасцю пра ўсё наша, зямное, цёплым душэўным настроем, даверам і такой жа замілаванай ціхасцю, якую заўсёды навявае краса мядзельскіх азёрных краявідаў. Менавіта ў стыхіі прыроды найбольш упэўнена і пачувае сябе Мікола Маскевіч. З прыемнасцю знаёмлю чытачоў "ЛіМа" з яго вершамі.**

**Казімір КАМЕЙША**

Мікола МАСКЕВІЧ

### Сэрца

*Сэрца, я цябе не разумею,*
*Хоць хачу даўно ўжо зразумець.*
*Дзе ж яна, ратоўная надзея?*
*А яна сама трывае ледзь.*

*Можа, жыць на свеце я не ўмею, —*
*Зранку плачаш,*
*Вечарам пяеш...*
*Дзе ж яна, ратоўная надзея?*
*Сэрца, ды ў табе яна.*
*А дзе ж...*

*Па-другому ты не можаш, праўда?*
*Струны твае толькі закрані —*
*Там чутны чысцъці*
*здзек і здрада.*
*Як ад іх цябе абараніць?*

*Бісяя роўна.*
*Бісяя й бараніся —*
*А ратунку іншага няма.*
*Сціпласці ў надзеі не вучыся,*
*Бо надзея па сабе сама.*

•

*З-за Мікольцаў, як на крылах,*
*Прыляцела раптам хмара.*
*І зайшлася чайка крыкам,*
*Зашумела грозна Нарач.*

*І куляўся хісткі чоўнік,*
*І шукаў у хвалях выйсця.*
*Медзякамі*
*незлічона*
*Асыпала сцежкі лісце.*

*Закіпала Нарач крэмна,*
*І шалёны вецер гойсаў.*
*І шукаў твой след дарэмна*
*Я ў той дзень каля Мікольцаў.*

### Вецер

*Ён быў з гарэзнікаў адзіны,*
*Дазволу нават не пытаў.*
*Ён гнуў сцвалы,*
*Ламаў галіны*
*І дзіка кроны шкуматаў.*

*Вунь прычапіўся да рабіны,*
*Са злосцю гне яе,*
*трасе.*
*Чырвоных пацеркаў рубіны*
*На дол кідае пакрысе.*

*Ён вэрхал гэтакі наладзіў, —*
*Ад страху кожны ліст дрыжыць.*
*І яблыньку атрос у садзе,*
*І ў дыме п'яным закружыў.*

*Ды ўсё ж суцішыўся паволі*
*І знік —*
*не знойдзеш днём з агнём.*
*Ну што ж, даволі пасваволіў,*
*Давай, брат, крыху адпачнём.*

### Лісцёвая завея

*Як густа фарбы верасень разводзіць!*
*Які адчайны пэндзаль у яго!*
*Насустрач жоўтай,*
*ціхае лагодзе*
*Імкне здалёк*
*рубінавы агонь.*

*Лісця завея*
*Кружыць нада мною,*
*Гарыць зары чырвонае віно.*
*Стаіць узлесак*
*Жоўтаю сцяною.*
*І ўсё пражытае —*
*за той сцяной.*

**Галіна Каспяровіч вучыцца завочна на факультэце беларускай філалогіі і культуры Педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка. Паэзія для яе — не хобі, не рыфмаванне "ў вольны час", як прынята казаць, і нават не мэта жыцця, хутчэй, гэта — само жыццё, у якім, нягледзячы на жорсткасць абставін, як сонца праз хмары, як трава праз асфальт, прабіваецца Надзея. Веру, што чысты і светлы голас Галіны Каспяровіч не згубіцца ў шматгалоссі нашай паэзіі.**

**Мікола ШАБОВІЧ**

Галіна КАСПЯРОВІЧ

### Заручыны

*Твая уладная бязважкая рука*
*Маю далоньку пад сваёй хавала.*
*Зямля нас гушкала, як лодачку рака,*
*І слодыч неба вочы атуляла.*

*А вусны прагнулі глыточка чысціні,*
*Май сэрцы лашчыў звадна праз аблокі —*
*Нібы навечна нас імкнуўся параднiць,*
*Нібы ўсур'ёз жадаў наблізіць рай далёкі.*

*...Стралою стоенасць рассеклі дзве душы —*
*І рэха падхапіла воклік: "Любы!..."*
*Жыццёвым бурам хай не ўдасца заглушыць*
*Прысуд вякоў, з якім ідзём да шлюбу.*

### Адпускаю

*Ён усміхнецца бэзаваму ветру,*
*Са снегу траўня злепіць гонкі плыт —*
*І павяслуе праз заўзятасць нетраў,*
*Руйнуючы гулліва звыклы быт.*

*Расчулены, дрыготкаю рукою*
*Ад сонейка да вуснаў паднясе*
*Агеньчык жоўты — зорку неспакою —*
*І стане зноўку не такі, бы ўсе.*

*Ён будзе найшчаслівейшы з каханых,*
*Прыдбаўшы неспадзеўкі яву-сон, —*
*Паэзіі, вясне, да страт, адданы...*
*Мне ж хопіць і таго, што шчасны Ён.*

•

*Кахаю Вас. І гэты свет,*
*Абмыты навальніцай першай,*
*Я абышла б, здаецца, пешшу,*
*Каб адшукаць сустрэчны след.*

### Па законе ўзаемазалежнасці

*Запэўніце мяне,*
*Што больш няма святла.*
*Аповед Ваш кране —*
*І я згару датла,*
*Каб ноч прагнаць з жытла.*
*Вы страціце мяне.*

*Суцешыце сябе,*
*Што больш мяне няма,*
*Што стане меней бед...*
*Успеніцца зіма —*
*Не кайцеся дарма,*
*Што страцілі сябе.*

### Каму горш?

*Дотык Вашых вуснаў*
*Спешчаных, спакусных —*
*Скораная воля,*
*Скрадзены дазвол...*
*Закадзілі зоры*
*Промнямі дакору*
*І пякельным болем*
*Апалілі дол.*

*...Нас сягоння трое:*
*Я, Вы і малое*
*Апраўданне стомай,*
*Ад пакут, Душы.*
*Ветрык ногі ліжа...*
*Кожнаму па крыжу:*
*Мне — расці з надломам,*
*Вам — ізноў грашыць.*

**Алена Усцілоўская скончыла 10 класаў Бярозаўскай сярэдняй школы № 2. Яна — пераможца Рэспубліканскай алімпіяды па беларускай мове, што праводзілася сёлета. Вершы пачала пісаць толькі год таму, але паспела ўжо надрукавацца ў абласной газеце "Зара" і ў "Чырвонай змене".**

Алена УСЦІЛОЎСКАЯ

•

*Не глядзі на мяне ты вачыма рамонкаў —*
*Пакрасуюць крыху, а пасля адцвітуць...*
*Мая мара імкнёцца далёка да зоркаў,*
*Па сцяжынцы ж да неба ногі самі ідуць...*

*А ты хочаш мяне назаўсёды прымусіць*
*Дыхаць пылам зняваг і крычаць ад пакут...*
*Чалавечае сэрца ніколі не хлусіць —*
*Не патрэбны рамонкі... Пакіну іх тут...*

*...Хай расою зямля сябе чыста памые,*
*Ветру ў косы чырвоную стужку ўпляту...*
*Хай жа ўсмешкі пяшчотныя, словы святыя*
*Людзі птушкамі ловяць — а хоць на ляту...*

•

*Паглядзі —*
*Зззяе зорка так ярка*
*ўначы...*
*Не крычы...*
*Паглядзі —*
*Перламутрам блiскочуць*
*агні...*
*...Не кляні*
*Гэтых воч,*
*гэтых слоў,*
*гэтых дзён...*
*Не праклён жа —*
*любоў, нібы сон...*
*Паглядзі —*
*Усміхаецца нам небакрай...*
*Помніць дай*
*Цудаў светлых*
*заладкавы край...*
*Абяцай...*
*Паратунак знямоглай душы*
*У крышталінай марознай цішы...*
*Паглядзі...*
*Гасне зорка так ціха*
*ўначы...*
*Не кляні...*
*Не крычы...*
*Памаўчы...*

•

*Наканавана, мабыць, лёсам*
*Мне па жыцці тваім блукаць...*
*Фантомам ціхім ранкам росным*
*Нячутна па слядах ступаць...*
*Пяшчотны дотык ветру дорыць*
*Усмешку сумных мілых воч...*
*А недзе там смяюцца зоры,*
*А тут са мной... злуецца ноч...*
*Схіляю голаў адзінока*
*На ветру моцнае крыло...*
*Наперадзе знікаюць крокі...*
*Дзесь там, адкуль ідзе святло...*

Сяргей ІВАНОЎ

### Надмагільны надпіс

*Брыдзём жыццём —*
*Як слепакі.*
*Куды ідзём?*
*Канец які?..*
*Спыніся.*
*Стой!*
*І азірніся:*
*Вось шлях твой,*
*ты...*
*Не памыліся.*

•

*Адгрымела хмара перунамі —*
*То Пярун падаўся на спачын.*
*Над аціхлымі лугамі і лясамі*
*Чарната сплывае ўдалячынь.*

*І крадком у нетры і прасторы*
*Вернецца са схованак жыццё.*
*Над суцэльнай вымытай разорай*
*Закалосяць жыта... і асцё.*

*г. Верхнядзвінск*



*Вызначальная сустрэча: Янка Маўр і Вольга Іпатава*

## Таццяна ХМАРА

●

*Хочаш,
Я скочу?
І мне гэта будзе
Няцяжка:
Столькі прасторы
Унізе
І столькі надзей.
Зблытаўшы
Яму нябёс
З павуцінай бяздоння,
Хочаш,
Я скочу
Й збавенне табе прынясу?*

*Мне так нязручна
Стаяць і хістацца
Над лёсам,
Горыччу поўніць
І згубаю
Кожны твой крок.
Хочаш,
Я скочу?
І можа, аднойчы
У небе
Ўбачу цябе,
Ды наўрад ці
Змагу даляцець.*

●

*А я застаюся на гэтай зямлі,
Хоць гэта, напэўна, ужо непатрэбна.
Спалі ўва мне радасць ці гора спалі,
Ці, як кацянятка з галіначкі вербнай,*

*Прылашч.
І няварта нам стрымліваць слёз
(Ты плач, не саромся, я ўсё зразумею):
Ў вялізным сусвеце, у зорнай завеі.*

*І я не імкнуся да шчырай начы,
І дзень не сустрэну прыгоршчамі ўсмешак...
Адзінае выйсце з падзення — крычы,
Хоць выйсце — тупік,
І ты зноў сярод пешак —
Забітых.*

●

*А ты скажы (сабе скажы!), ці варта
Рабіць крыжы, цягнуць крыжы упарта
І верыць у рэальнасць мар і сноў.*

*А я іду,
А я гляджу на неба.
І не прашу відовішчаў і хлеба.
А мне так трэба быць з табою зноў.*

*Ды не хачу (сабой плачу за шчырасць)
Цябе чакаць (а ты то тут, то — ў вырай)
І згодная чакаць і верыць снам.*

*Ды што зрабіць, як восеньскае лісце
Рыфмуе непапраўнае Калісьці,
Якое перажыць ужо не нам.*

●

*– Гэта горыч?
– Што ты, гэта смех,
Што з таго, што не смяюцца вочы.
І змест блакіту — шэры снег
У вачах... Мой сумны, гэта смех.*

*– Гэта цемра?
– Што ты, гэта дзень.
Не глядзі, што не відаць нічога.
Проста на зямлі ад сонца — цень.
Што рабіць, такі ўжо выпаў дзень.*

*– Гэта сон?
– Ну што ты, гэта я.
Проста ты — не той, каго чакаю.
Ты даруй, відаць, я не твая,
Ты ляцеў... а гэта — толькі я...*

*– Гэта горыч?
– Што ты, гэта смех...*



Купалавы Акопы

Малюнак Веранікі ШНІП

## Сяргей РАБЧУН

●

*Сёння з раніцы завея
круціць замець па шашы.
Небяспечная падзея —
апантанасць у душы.
Успацелае, бы люстра,
неба ўсё — нібыта з тла.
Фары кідаюць насустрач
стужкі бліжняга святла.
І не так дзеля крамолы,
як з ахвяраю вясне,
вецер выскачыў пад колы
за хвіліну да мяне.*

●

*Калі я ўсё прыдумаў сам,
дарэмна псуючы паперу,
даверу выдумку слязам
і у хімеру іх паверу.
І буду рады, што згару
світальнай знічкаю
над хатай,
бо ў тым, што жыў
і што памру,
ні перад кім не вінаваты.*

●

*Мне не зразумець сябе да скону,
не спазнаць душы сваёй бяздоння.
Памалюся моўчкі на ікону
перад пакараннем... А сягоння —
служкаю недарэчнага мастацтва
назавуся я ў астрозе каты.
Толькі не прадказвайце вар'яцтва
вамі благаславёнаму вар'яту.*

●

*Усё праходзіць незваротна
з адлікам часу на зіму.
І так бязмерна адзінотна,
і падтрымаць няма каму.
І ты не ведаеш, не знаеш,
дзе твой гадзіннік спыніць ход,
і безнадзейна забываеш
сваіх народзін дзень і год.
А над зямлёй такія зоры!
Такая месячная сінь!..
І толькі ты чамусьці хворы
на золь касмічную і стынь.*

●

*Не супярэч мне ані словам,
ані радком не супярэч, —
непадуладна больш замовамі
вар'яцтва спознененых сустрэч.
Пахмелле пройдзе, і пачнуцца
дні новых клопатаў і спраў.
Датлеюць прысакам пачуццяў
масты мінулых пераправ.*

*Лагойскі раён*

## Васіль БАРЫСЮК

### Берасце

1

*Дзіўна, зусім без пары
ўспыхнулі вочы прадмесцяў:
зманлівыя ліхтары
колішняга Бярэсця...
Дзе мне яго знайсці
ў гэтых чужых будынках?
Снег, які быў ацїх,
разам з лавінай тынку
вочы зацерушыў,
змусіў на ўсё забыцца...
Шолахам мёрзлых шын
жывяцца камяніцы.*

*Нельга было шукаць
горад, забыты ўсімі,
хай сабе сніць рака
смак адзінокіх зімаў...*

*Берасце — як прывід.
Нельга было вяртацца:
з холадам у крыві
ды пералікам станцый.*

2.

*Вечар агорне вулкі
ветрам трывожна-шумлівым.
Позіркам стрэліць мулкім
той, хто праверыць "ксіву"
ля пераходу ў сненне
дня, які мусіў адбыцца,
каб пасярод камення
вершык прарос з грыбніцы
і "ашчаслівіў" горад
звышнечаканым з'яўленнем
на тратуары чорным
стрыманага натхнення,
што станецца птушкам ежай
дні на чатыры ці болей:
словаў пакуль непазбежнасць
мне дэкларуе волю
выкінуць ці пакінуць
ці проста ўсё закрэсліць.
Прысмеркам вершы стынуць
у брукаваным Брэсце.*

3.

*Голы мароз патрэсквае
на вулках, ветрам падмеценых,
вечар гуляе фрэскамі
шапак на звонкіх праплешынах.
Холадам і няўтульнасцю
я ўжо паспеў нацешыцца.
Зноўку самота сунецца
на шыю маю павесіцца
гальштукам апельсінавым
з палоскамі і анекдотамі,
грудзі мае масіраваць
кожным сцюдзёным дотыкам.
Быццам бы я чакаў яе
з апошняй зімовай вернасцю.
Неяк, знянацку злоўлены,
я ёй пазычу Берасце.
Хай сабе з камяніцамі
самота паабдымаецца —
магчыма, пад іх спадніцамі
голад яе схаваецца.*

4.

*Без маланак і грому ліўні
спляжылі цьмяны горад:
хтосьці не дагледзеў пільны
ў вэрхале мокрай просторы.*

*Берасце ў мораку знікла.
Шукай, не шукай — дарэмна.
Дзейнасць — бязглузды выклік
панаванню пустэльнай цемры...*

*Сцішылася залева.
Шэпт — і аднекуль рэха:
недзе, справа ці злева,
горад азваўся сабачым брэхам,*

*злосным і неўтаймоўным.
Пакіньце яго ў спакоі:
хай аблашчане поўняй
замчышча росы загояць.*

*г. Брэст*

## Ніна АКСЁНЧЫК

### Зноў еду дадому

*Зноў еду дадому.
Хоць знаю: сустрэчы
Ніколі не будзе на гэтым шляху.
Хацінка сівая ўздыхне па-старэчы
І ветла запросіць мяне пад страху.*

*А ў хаце без мамы
усё сіратліва,
І страшна і цяжка ступіць на парог.
Здаецца, што плачуць масніцы чулліва
І комін, што колісь цяпельца бярог.*

*Усё акалела ў маўклівым здранцвенні:
І вокны, і печ, нават сцены маўчаць.
Паўсюль толькі
з болем былога ўтрапення
Стамлёныя маміны вочы глядзяць.*

### Арабіна

*Я — жанчына, я заўжды жанчына.
Будзе снег на холадзе звінець,
Пацерак не скіне арабіна —
Будзе і дрыжэць, і чырванець.
Выстаіць. Не змерзне. Не завяне.
Выбаліць красу сваю скрозь золь,
Каб затым, як сонца ласкай гляне, —
Выплакаць слязой нябачнай боль.*

### Вечаровы эцюд

*Вецер стыне у голасе звонкім.
Свету белага не відно.
Ткуць мяцеліцы прадзівам тонкім
Белым-белае палатно.*

*То пяюць, то закружаць хвацка
Думкі даўнія вечароў.
А затым уцякуць знянацку
І да новых заснуць вятроў.*

●

*Гляне ў неба адзін:
О, які зорны сад! —
Граюць месяца блікі рухавыя...
А другі —
нечы сын,
Можа, першаму брат,
Скажа:
Бачыце, й неба
Дзіравае.*

### Пачынаецца эміграцыя

*Пачынаецца эміграцыя
Не за акіянам,
Не за мяжою —
Адразу за парогам
Маёй роднае хаты.
Са сцежкі ў садок і школу,
З сустрэчы з сябрамі, знаёмымі,
Якія ўжо не разумеюць
Ні мовы маёй, ні мяне...
І з мовы чужое
Нават на родных кладах.*

●

*О зорка шчасця ў небе Беларусі!..
Слязой упала — сонца ўкрыў кажан.
І быццам Богу, краю я малюся —
Пакінутым магілам і крыжам,
Твайму дакору з часу Рагвалода,
Як на ручнік лягла крывёю ніць.
І, як Хрыстос, распяты лёс народа
Прад вечнасцю ўкрыжаваны стаіць.*

## Генадзь ПШЭННІК

### Прыбалтыка

*Усход зацяты неба ўсклахнуў
І запаліў агні на гарызонце,
А вецер, уздыхнуўшы, праглынуў
Прымроенае хваляй ранняй сонца.
Я не хачу куток той урачы,
Дзе падступае белай пенай мора,
Дзе сосны абцякаюць уначы
Жывічнымі слязьмі з дабра і з гора.
Сівеюць дзюны, а ў даліне — лог,
Зарослы хмызняком і васількамі,
І сена ў копках, а між імі — стог,
І ўздоўж абшараў камень, зноўку камень.
Цяжкое неба — выцвілы блакіт
І дождж сівы, закудлівы, абцяжны,
І ў вышыні, у засені ракіт,
На баране цыбаты бусел важны.
Адна такая на Зямлі ты ёсць,
Што вяжаш з дуба ўбор святы на Яна,
Прыбалтыка — куток жывічных слёз
І чарапічных дахаў акіяны.
Гляджу ў далеч — мроіва агнёў,
І воблака ў нябёсах, нібы крыга;
Шуміць Даўгава, Нямунас завёў
Святыя песні на Купалле — Ліго.*

*г. Маладзечна*





## Тры зоркі

Менавіта так можна назваць удзельнікаў нядаўняга канцэрта ў Зале камернай музыкі — салістаў Нацыянальнага тэатра оперы Беларусі Аляксандра Жукава ды Ірэну Журко і канцэртмайстра Ларысу Талкачову. Гучалі рэдка выконваемыя творы французскіх кампазітараў XIX, XX стст.

Голас Ірэны Журко — рэдкай тэмбравай прыгажосці. Яго дыяпазон дазваляе выконваць партыі як лірычнага, так і лірыка-драматычнага, драматычнага сапрана. У творчым багажы артысткі — партыі Маргарыты з оперы Ш. Гуно "Фаўст", Яраслаўны з "Князя Ігара" А. Барадзіна, Тоскі, Турандот у аднайменных операх Д. Пучыні, графіні ў моцартаўскім "Вяселлі Фігара". Гэтым разам Ірэна бліскуча выканала вальс Джульеты з оперы Ш. Гуно "Рамэо і Джульета". Тонкай нюансіроўкай, вялікім густам, пачуццём стылю адрознівалася яе выкананне рамансаў К. Сен-Санса. Зграбна, прыгожа, ярка прагучала арыя Лаўрэты з оперы А. Грэтры — "Рычард — ільвінае сэрца", тэму якой П. Чайкоўскі выкарыстаў для песенькі Графіні ў оперы "Пікавая дама".

Аляксандр Жукаў — уладальнік прыгожага лірычнага тэнара, рухомага, гнуткага, валодае каларатурнай тэхнікай. Асабліва гожы ў яго верхні рэгістр. Рэпертуар спевака складаюць вядучыя партыі: Альмавіа ў "Севільскім цырульніку" Д. Расіні, Зіновій Барысавіч у оперы "Лэдзі Макбет Мцэнскага павета" Д. Шастаковіча, Базіліё ў "Вяселлі Фігара" В. А. Моцарта. Шчыра, мякка прагучаў у выкананні артыста раманс К. Сен-Санса "Журба". Спявак адолеў высокую тэсітуру арыі Рамэо з оперы Ш. Гуно "Рамэо і Джульета". Добрае ўражанне зрабіў у яго выкананні складаны раманс Надзіра з оперы Ж. Бізэ "Шукальнікі жэмчугу".

Канцэрт упрыгожылі дуэты. Прынамсі, з оперы Ж. Афенбаха "Казкі Гофмана". Упершыню на мінскай сцэне былі выкананы сцэна і дуэт Рауля і Валянціны з оперы Д. Меербера "Гугеноты": у трагічную для Францыі варфаламееўскую ноч дзяўчына-каталічка імкнецца выратаваць каханага...

Ініцыятар, арганізатар і душа гэтага канцэрта — таленавіты канцэртмайстар Ларыса Талкачова. Яе раяль гучаў "па-аркестраваму". Адчувалася цудоўная тэхніка піяністкі, тонкасць нюансіроўкі, прыгажосць фразы. Дарэчы, у праграме былі выкарыстаныя і аркестравыя творы ў пераладжэнні для фартэпіяна. Арганічны ансамбль выканаўцаў літаральна скарыў публіку. Хацелася б і на нашай опернай сцэне часцей бачыць таленавітых спевакоў Ірэну Журко ды Аляксандра Жукава.

Вера КРОЗ

## Да юбілею паэта




Улучна юбілею народнага песняра Янкі Купалы Таварыства беларускай мовы пры падтрымцы дабрадзеяў выпусціла мастацкі каляндарык на 2002-2003 год і плакат (дызайн мастака Ігара Марачкіна) з выявай паэта на фоне касцёла Святога Роха і словамі з верша "Ворагам Беларушчыны". Гэта і памятка пра 120-я ўгодкі песняра, і падарунак аматарам яго паэзіі. Набыць каляндарык і плакат можна ў сядзібе ТБМ (Мінск, вул. Румянцава, 13), а таксама ў Літаратурным музеі Янкі Купалы.

Ірына МАРАЧКІНА


Стратэгія і тактыка: Пятро Прыходзька, Мікалай Аляксееў, Міхась Калачынскі

### Тамара МАЗУР

●

*Раўную, то ж трэба — раўную.*
*Як сябра, зусім не каханка.*
*А раптам сустрэнеш другую,*
*Што выселіць тлум, як цыганка.*

*Што будзе вярэдзіць не многа,*
*Бяздумна, і нат не старанна.*
*Затое ж усцеле дарогу*
*Дурманам шчасліва-падманным.*

*Раўную, раўную... Трывожна,*
*І камень халодны на сэрцы.*
*Таму што сказаць мне не можна:*
*Вы іншым не верце, не верце.*

●

*Губляю Вашы позіркі, губляю*
*За мітуснёй глухіх выпрабаванняў.*
*Не знаю лепшай долечкі, не знаю,*
*Як жыць у недазволеным чаканні.*

*Яго мне гэтак доўга не хапала,*
*Калі ўсё цела поўніцца пяшчотай,*
*Калі ў жаночай рэўнасці запале*
*Хвілінай кожнай — як на эшафоце.*

*Чакаю Вашых позіркаў, чакаю.*
*Як чэрвеньскае неба — шкадавання.*
*У сінь вачэй блакіт вачэй пускаю —*
*Адзінае пакуль маё адхланне.*

●

*Прамерзлая памяць да самае ніткі.*
*А нітка не простая, а з серабра.*
*Сабрала б манаткі ды склала пажыткі,*
*Ды толькі няма ў мяне тога дабра.*

*Усё, што нажыта, прысвоена д'яблам,*
*З якім я дзяліла і цукар, і соль.*
*І крыўдай пасечана цела, як шабляй,*
*І вонкі імкнецца нязболены боль.*

*Мой дом напалову агідны і брыдкі,*
*Што й чыстай палове ачахнуць пара.*
*Сабрала б манаткі і склала б пажыткі,*
*Ды толькі няма ў мяне тога дабра.*

### Яўген ГУЧОК

●

*А як наслухаюся лесу,*
*А як нагледжуся палёў —*
*Дык ані кроплі інтарэсу*
*Да філасофскіх нат размоў.*

●

*Болей за ўсё я на свеце люблю*
*Прыродную медытацыю...*
*Лягу на зямлю і ў небе раблю*
*І сэрцу, і розуму акрэдытацыю.*

●

*Незвычайны гэты малец*
*Ад наўкол абраных:*
*Вытыркаецца, бы палец*
*Са шкарпэтак рваных.*

●

*Ён праўду рэзаў,*
*Рэзаў, рэзаў...*
*І ў рэшце рэшт*
*Яе ж зарэзаў.*

●

*Дык што ж рабіць? Ды анічога!*
*Маліцца сонцу, ветру і вадзе;*
*Няхай яны заступяцца прад Богам*
*За нас. І кожны з нас не прападзе!*

●

*Не гавары, што кнігі Багдановіча*
*З іх беларускасцю губляюцца ў імгле;*
*Яны — душы высокай сховішча —*
*Ўсе да адной у Бога на стале.*

●

*Як станеш сапраўдным паэтам,*
*То вершы пакінеш пісаць*
*І будзеш, бы неба гэта,*
*Глядзець на зямлю і маўчаць.*

### Анатоль КУДЛАСЕВІЧ

## Маналог сэрца

*Малой радзіме маёй —*
*вёсцы Люсіна*

*Да блізкіх людзей і зямлі мае словы:*
*Ніколі, нідзе не зраблюся я новым!*

*Я гэтак жа рвуся з грудзей на волю*
*І так апантана шукаю долю,*
*Старое, як свет, у зямной кругаверці,*
*Як сонца адно над жытнёвым полем,*
*Я — Мера Любові, нястомнае сэрца.*
*Калі ж хоць аднойчы на момант спынюся,*
*Няўзнак захлынуся шалёным рытмам —*
*То зноўку да роднай зямлі вярнуся,*
*А вершамі з вамі яшчэ гаварыцьму.*

●

*Колькі мудрых напісана кніжак,*
*Ды дабрэйшым не стаў белы свет.*
*А паэты ўсё пішуць і пішуць,*
*Ці не кожны жадае паэт:*
*"Надрукую апошні санет —*
*І абновіцца ўвесь белы свет!.."*

●

*Вучыўся я ў сябе самога.*

*Калі я думаў пра сябе,*
*Што я там штосьці значу —*
*Быў я, па сутнасці — Нішто!*

*Калі я ведаю цяпер,*
*Што я па сутнасці — Нішто, —*
*Гавораць мне: ты сёння нешта значыш!*

*Але ж вучыўся я ў сябе самога?*

●

*Не насыціцца вока зрокам.*
*Не спатоліцца слыхам вуха.*
*Не развеюць сумненняў прарокі*
*У няўлоўнасці вечных рухаў.*

*Будзе гэтак жа свет круціцца:*
*І, хоць іншыя прыйдуць людзі —*
*А ўсё самі сабе ж будуць сніцца,*
*Толькі нас тады ўжо не будзе.*

### Аксана ДАНІЛЬЧЫК

●

*Грымотны дзень. І сон з грымотных дахаў*
*Высочвае разбэшчаных істот.*
*Гарачыня агортвае ахвяр.*
*Сляпыя цені бы з пакою жахаў*
*Выконваюць усё наадварот.*

*Грымотны дзень.*
*Абвергнуць прыналежнасць*
*Пакуль яшчэ недастаткова слоў.*
*Гарачы дах. Безабаронная залежнасць.*
*Адсутнасць мовы. Маляўнічасць сноў...*

●

*Калі ты вернешся*
*і мы будзем кахаць*
*адзін аднаго,*
*не запальвай святла.*
*Я не хачу бачыць тваіх вачэй.*
*Я баюся прачытаць у іх*
*нешта*
*напісанае не маёю рукою.*

*Калі ты вернешся*
*і твой абрыс на белай прасціне*
*запалоніць зноў маю істоту,*
*не пакідай мне часу*
*на роздум.*
*Я баюся пачуць чужыя крокі.*

*Калі ты вернешся,*
*то не запальвай святла*
*і не пакідай мне часу*
*на роздум.*
*Нагадай мне толькі,*
*што і святло, і час,*
*і непазбежнасць*
*ёсць ты і я.*

●

*Рыбінай на беразе пустэльным*
*Заціхае той далёкі дзень*
*У якім і мроі і рэальнасць*
*Трызненнем зрабіліся суцэльным*

*Хто яны ля самае вады*
*Гэтыя нязручныя музыкі*
*Аніякіх пераможных маршаў*
*Толькі глуха тахкаюць гады*

*І збіраюцца сюды з-за дзюнаў*
*Розныя марскія чарапахі*
*Статкі крабаў з зоркамі на спінах*
*Запаўзаюць пад абломкі шхуны*

*Парушаеш быццам незнарок*
*Цішыню і роспач адмаўлення*
*Пад тваімі босымі нагамі*
*Мёртвы калыхаецца пясок*

●

*Год за годам, крок за крокам*
*сплучаюцца імгненні,*
*Сплучаюцца памкненні*
*ў ланцужок бесперапынны,*
*А пабітыя далоні, а падраныя калені*
*Загаіліся патроху і клапоціць не павінны.*
*Ад самотнай весялосці да вясёлае самоты*
*Дацягнуцца вельмі лёгка,*
*вельмі лёгка пераскочыць.*
*Я ізноў сачу за небам у чаканні самалёта,*
*Я ізноў гляджу ў прастору,*
*што міжволі слепіць вочы.*
*Мне не дадзена патрапіць*
*у зададзеную кропку,*
*Мне не дадзена спасцігнуць ні*
*наступства, ні прычыну,*
*У чаканні самалёта*
*час бруіцца нетаропка*
*І адсоўвае на потым вырашальную хвіліну.*
*Разгарнула бездань рукі,*
*загайдалася калыска,*
*Я хачу сказаць: "Кахала", ды ізноў*
*кажу: "Кахаю".*
*Адгукаецца вятрыска, голас нізкі,*
*неба блізка,*
*Можа, ўбачу твар знаёмы сярод*
*тых, хто сустракае...*

●
*У галерэі маленькіх кавярняў*
*і антыкварных крамаў,*
*дзе твары хаваюць ад сонца*
*парцэлянавыя паненкі*
*і пекнымі ручкамі*
*разгладжваюць парцэлянавыя сукенкі,*
*а іх кавалеры сумуюць*
*у залацістых рамах,*
*дзе пахаваны ў шырокіх вітрынах*
*настрой дэкадэнцкі,*
*а медныя кандэлябры ўзгоркі*
*пылу збіраюць*
*і чытачамі цікаўнымі мроіць*
*пажоўклая кніга старая,*
*прамень, пасланы люстэркам,*
*заблытаўся ў вазах багемскіх.*

## Поўдзень

*Людзі спяшаюцца зікнуць. Збавенне -*
*Шклянка вады з лімонам.*
*Вабіць прытулак рэдкага ценю*
*Пахамі кардамона.*
*Гарачыня, як вердыкт канчатковы*
*Тут прыпыняе паэтаў*
*Вершы пісаць на шматках выпадковых,*
*На каляровых сурвэтах.*
●
*З гэтых паштовак далёкіх і блізкіх краінаў*
*так нечакана з'ядналых*
*маёю прысутнасцю*
*зрэдку здзьмуваецца пыл дарагіх успамінаў*
*зрэдку чытаюцца смешныя*
*хуткія надпісы.*

*Так і ляжаць некранутыя часу размовай*

*дождж,*
*у якім прачынаюцца словы*
*снег,*
*у якім прачынаюцца словы*
*лісце,*
*у якім прачынаюцца словы*
*поўня,*
*у якой прачынаюцца словы.*

Таццяна БАРЫСЮК

## Будзь!..

САМАРЭФЛЕКСІЯ

*Разгубленую, цябе калышуць хвалі*
*па-над жыццёвым павуціннем.*
*Хочаш, каб лёс табе паламалі, —*
*будзь наіўнай!*

*Наканаванняў снуецца ніць,*
*час надзеі зняважае шпарка.*
*Каб кахаць і каханай быць —*
*будзь вядзьмаркай!*

*Калі ж ад здрадаў яговых цяжка*
*і вабіць душэўны спакой,*
*ты раіш сабе: "Будзь манашкай!*
*Будзь святой!"*

## Формула прывабнасці

*Як застацца беладоннай,*
*захаваць кахання кветкі? —*
*Быць ільдзінкай, а не промнем,*
*быць зімою, а не летам,*
*быць далёкай, а не блізкай,*
*зоркай быць, а не зямлёю,*
*з сэрцам паэтычна-чыстым,*
*каб ты марыў быць са мною!*

## Джаконда XXI стагоддзя

*Красуня, фарбай, парфумай задужа*
*аздобленая, плюс шыкоўныя трэнты,*
*падобна на штучную ружу,*
*апырсканую дэзадарантам.*

Серафіма БЕСТАВА

## Настальгія

*Была вясковай я, а стала гарадскою.*
*Сама я тут, а там мая душа.*
*Дзе шэпчацца крынічанька з вярбою,*
*Дзе звоняць пчолкі ў смолках-спарышах.*

*Дзе долу пахіліўся спелы колас,*
*І конікі стракочуць у траве,*
*Дзе птушаня спрабуе спеўны голас,*
*І верыць, што ўвесь свет перажыве.*

*Была вясковай я, а стала гарадскою.*
*Сама я тут, а там мая душа.*
*Тут калі жыць, дык толькі што зімою,*
*Калі замецена да лепшых дзён шаша.*

●
*Не ўсё ў жыцці маім збылося.*
*Але ці варта сумаваць,*
*Калі яшчэ з маіх нябёсаў,*
*Спрабуюць промні шчыраваць.*

*І ўсцешна думаць, што не вечар*
*Звалодаў думы і шляхі*
*І ў ціхай цэркаўцы, між свечак,*
*Мае адмолены грахі.*

## Заставайся, душа, маладою

*Я пра сонейка ды пра вясну,*
*Пра чаромхавы водар вясною.*
*Промнік сонейка прыгарну.*
*Заставайся, душа, маладою.*

*Пра крынічку, пра звон ручая,*
*Пра калінавы куст над ракою...*
*Хоць не пешчана долечкай я,*
*Заставайся душа, маладою.*

*г. Орша*

Юлія ЗАРЭЦКАЯ

## Мініяцюры

●
*"Жыццё ёсць сон", —*
*сцвярджаў Кальдэрон.*
*Кажуць, сны збываюцца.*
*Ці збудзецца тваё жыццё?*
*"Жыццё ёсць сон".*
●
*Ты пазваніў і адразу папярэдзіў:*
*"У мяне мала часу".*
*Я ведала: гэта таму, што*
*ў цябе мала грошай.*
*Маўчанне — золата?*
●
*Не забі! Палюбі бліжняга свайго!*
*Забіць ці палюбіць?*
*Хто адкажа, што лягчэй зрабіць?*
●
*Нам казалі: "СССР — вялікая краіна".*
*Потым яе не стала.*
*Высоцкі казаў: "Каханне —*
*вялікая краіна".*
*Знікаюць краіны...*
*Знікаюць людзі...*
*Знікае каханне?..*
●
*Ён пайшоў, падобны на клічнік —*
*трыумфальны і непахісны.*
*Яна засталася, падобная на пытальнік*
*— прыгорбленая і з болем у вачах.*
*Цяпер іх злучала адно — кропка.*
●
*Дождж — слёзы неба.*
*Сонечны прамень — усмешка неба.*
*І слёзы высыхаюць.*
*Толькі ці забываюцца?*
●
*Дарослыя — як дзеці, толькі вялікія.*
*Дзеці — як дарослыя, толькі маленькія.*
*Свет дзяцінства заўсёды з намі?*
●
*Прачнулася і ўбачыла чорную кошку.*
*Паклікаць?*
*Прагнаць?*
*Пагладзіць?*
*Ударыць?*
*Прылашчыць?*
*Загубіць?*
*А можа, зноў заснуць?..*
*"Жыццё ёсць сон", —*
*сцвярджаў Кальдэрон.*
*Нехта бачыць каляровыя сны,*
*нехта — чорна-белыя,*
*нехта — наогул не бачыць...*
*"Жыццё ёсць сон".*

Ала НІКІПОРЧЫК

●
*мая грамнічная свечачка*
*з Полацка*
*з воску*
*з дванаццатага стагоддзя*
*з Еўфрасіннінай царквы*
*(або, як кажуць у Полацку,*
*з храма Прападобнай)*
*аберажэ і атуліць*
*суцешыць і суцішыць*
*і ніколі не патухне*
●
*званы званілі*
*у небе прысіненым*
*званы званілі*
*гукі танчэйшыя*
*чым перагародкі эмалі*
*што ў Крыжы Еўфрасінніным*
*званы званілі*
*нібы жыццё дарылі*
*(ці — адымалі?)*
*званы званілі*
*благаслаўлялі*
*Белую Русь*

●
*як лёгка карміць галубоў*
*як цяжка разумець людзей*

*паядай нас Божа у гэтай царкве*
*каб не было балючых слоў*
*каб не было несуцешных душаў*
*абарані нас Божа Тваім святлом*
*каб на пустэчы гэтага месца і веку*
*нас не спаткала цемра*
●
*ці ж магла я думаць*
*што пройдзе час*
*і ў кары я ўбачу літасць*
*і ў болю я адчую радасць*
*і ў цемры — аслепну*
*ад святла*
●
*у Божым Доме*
*у Божым Храме*
*у промнях вечнай чысціні*
*люблю маліцца ў змярканні*
*люблю маўчаць у цішыні*

Святлана ЯВАР

●
*Праз пошум дрэў у гушчыні лясной*
*Адно ўлавіла вуха трапятанне:*
*Лес, ледзь крануты першай сівізной,*
*Ціхенька нагадаў мне пра вяртанне.*

*Вяртайся да сябе, сябе самой,*
*Да той сябе, якой была даўно ты,*
*Калі не знала слоў: "Навек ты мой".*
*Вяртайся — ад пакутнай адзіноты!*

*Мой лес мне лепшы сябар і дарадца,*
*Ніколі не пакрыўдзіць і не здрадзіць.*
*Калі ў сабе пачну нат сумнявацца —*
*Ён і тады ціхенька штосьць парадзіць.*

*Уздыхі чую праз лістоты шум.*
*Мяне ён лечыць, гэты лесу дух.*
*І сэрца пакідае даўні сум,*
*Знікае след будзённых завірух...*
●
*І толькі конікі ў траве*
*Цвыркочуць аб нязбытным шчасці,*
*Але надзея ўсё жыве*
*І не дае ў нябыт прапасці.*

*А ты прыходзіш толькі ў снах*
*Ці мімалётным успамінам.*
*Не ўбачыў ты ў маіх вачах*
*Кахання і... пакрочыў міма...*

*Пяю аб тым, чаго няма,*
*І спеў высвечвае журбою.*
*Спяваю, пэўна, я дарма,*
*Ды я — "жыву адным табою!"..*
●
*Нічога мне не трэба ў Беларусі:*
*Ні славы, ні дароў данайцаў тых,*
*Каб толькі віў гняздо на хаце бусел*
*І васількі цвілі ў жытах густых.*

Змітрок КУЗМЕНКА

●
*Як ні шукай, аніяк*
*Праўды не знойдзеш ні ў кога.*
*У кожнага праўда — свая,*
*сціна — толькі у Бога.*

●
*Праспявайце мне, дрэвы,*
*задуменную вашую песню,*
*Абудзіце ў збалелай душы зноў*
*надзеі агмень.*
*Дайсце сілы, каб жыць, як дае ўсёй*
*зямлі напрадвесні*
*Сілы гэтай бязмежнае сонечны*
*цёплы прамень.*

*Як хацелася б мне, каб народ*
*наш сабой ганарыўся,*
*Каб спявалі мы горда гімн нашай*
*радзімай зямлі.*
*А калі б хтось сказаў: "Аджылі*
*вы свой век, беларусы!",*
*Дык таго чалавека каб проста*
*на смех узнялі.*

*Як хацелася б мне за краіну*
*сваю не баяцца,*
*Не баяцца, што знікне народ мой*
*з Зямлі назаўжды...*
*Як хацелася б жыць, проста*
*жыць і жыццём захапляцца,*
*Светлым вершам узнёслым*
*апяваць маладыя гады.*

*Ды няма мне спакою, і, напэўна,*
*ніколі не будзе.*
*Дайце сілы мне, дрэвы. Чароды*
*свабодныя хмар,*
*Моцным ветрам вільготным*
*асвяжыце спатнелыя грудзі,*
*Навальнічнай вадою амыйце*
*запылены твар.*
●
*Прытуліліся хаты адна да адной*
*ля касцёла,*
*Тут усё, як на вёсцы звычайнай, —*
*гароды, двары.*
*Толькі побач з высокай гары*
*пазіраюць наўкола,*
*Нам у вочы сурова глядзяць*
*векавыя муры.*

*Не чуваць тут даўно ані грознага*
*вокліч варты,*
*Ані крокаў па гулкіх прыступках*
*у тоўшчы сцяны —*
*Толькі вецер часамі закруціць*
*з руінамі жарты*
*І, не ўчуўшы адказу, засвішча*
*ў прагале скразным.*

*Векавыя муры. Векавечныя нашы руіны.*
*Як вас многа ляжыць*
*па маёй шматпакутнай зямлі...*
*Недзе побач з крыніцы цурчыць*
*паўз вякі ручаіна, —*
*Можа, гэта з яе ваяры-абаронцы пілі?*

*Можа, тая крыніца й зямля*
*пад мурамі святая*
*Помняць кожную кроплю варожай*
*і нашай крыві,*
*А людзей, пра якіх мы сягоння*
*легенды складаем,*
*Можа, бачаць яны і цяпер прад сабой,*
*як жывых?*

*Навагрудак сівы, паўзабытая*
*наша сталіца!*
*Зноў стаяць прад вачыма апошнія*
*сцены твае.*
*Дабурліць праз вякі да нашчадкаў,*
*напэўна, крыніца,*
*Толькі што яны змогуць убачыць*
*навокал яе?..*



*Акварэль Васіля ШАРАНГОВІЧА*

## “Шторму” як не было…

Гавораць пра вынікі тэатральна-канцэртнага сезона, гавораць… А гэтую імпрэзу чамусьці амаль не згадваюць. Хаця першы візіт на Беларусь знакамітай Ванэсы Мэй абяцаў быць сенсацыяй.

Так, брытанская скрыпачка сінгапурскага паходжання, віртуозная салістка віртуозна зладкаванага шоу, завітала ў Мінск з адзіным канцэртам. Праграма называлася “Шторм” — паводле папулярнай музычнай тэмы А. Вівальдзі (“Лета” з цыкла струнных канцэртаў “Поры года”). Рэпертуарны акцэнт быў зроблены на музыцы І. С. Баха. У якасці акампануючай акустычнай групы запрасілі маладых беларускіх струннікаў — студэнтаў Акадэміі музыкі на чале з дырыжорам Пятром Вандзілоўскім, якія раней удзельнічалі ў мінскім праекце папулярнай групы “Skorpions”.

Нашы музыканты, як ні дзіўна, нават на генеральным прагоне праграмы рэпеціравалі без салісткі. Вось яны, законы шоу-бізнесу: усё загадзя, раз і назаўсёды пралічана! Ніякіх выпадковасцяў, экспромтаў, творчых эксперыментаў, імправізацый.

Апроч камернага аркестра, у акампанеменце былі задзейнічаны творчыя партнёры Ванэсы Мэй: рок-група, ударныя, клавішныя… Плюс — багатая светлавая партытура. Высакакладная апаратура, класны лідэр-каардынатар, пры якім дырыжор падчас канцэрта не патрэбны… Зала, “напакаваная” цікаўнай публікай… Усё працуе на поспех.

Аднак… На пытанне: “Імпрэза Ванэсы Мэй — гэта высокае мастацтва ці вялікая мыльная бурбалка?” нашы музыканты адназначна адказаць не рызыкнулі. Маўляў, у Ванэсы Мэй было яркае дзяцінства: класічная музычная адукацыя, выступленні з Лонданскім сімфанічным аркестрам ужо ў 10-гадовым узросце — і яна, бясспрэчна, валодае скрыпкай. А разглядаць з'яву супер-бізнесу, камп'ютэрызаванай шоу-індустрыі з пазіцый класічнага мастацтва, што называецца, — даруйце…

С. ВЕТКА

## “Роднае слова”, № 5

Літаратурны партрэт С. Панізніка “І ўсе мае дні — Беларусі” напісаў А. Бельскі. Тут жа змешчана вялікая падборка твораў С. Панізніка “Жыве любоў — гармонія людзей!”, “Раман “Драбы” Уладзіміра Случанскага і станаўленне беларускай гістарычнай прозы “ — такі падзагаловак мае артыкул А. Пашкевіча “Пад знакам Ярылы”. Змешчаны артыкулы У. Верынай “Замова, малітоўна-літургічны, біблейскі верш і сучасны беларускі верлібр” (месца ў эвалюцыі паэтычных сістэм), А. Вострыкавай “Чэшскі рамантызм”, А. Багамолавай “Роля экспрэсіўна-вобразнага слова ў беларускіх народных песнях”, І. Піваварычык “Ідзе маладая, як сонца…” (знакава-сімвалічны аналіз вясельнага ўбрання), Н. Бунько “Божая кароўка, паляці на неба…” (назвы божай кароўкі ў беларускіх гаворках), Н. Даўгулевіч “Бартэр, брокер, ваўчар” (запазычанні з англійскай мовы ў эканамічнай сферы), Т. Салаўянчык “Пра мову службовых дакументаў”, І. Лепешава “Крупені ўволю я паеўшы…” (ужыванне дзеепрыслоўяў), Г. Кулеш “Вобласць, галіна, сфера”, Л. Баршчэўскага “Літаратура эпохі Асветніцтва”, Т. Шамякінай “Культура Візантыі”, І. Завадскай “Яму не было замены…” (пра Уладзіслава Галубка), В. Ціхановіч “Уладзіслаў Галубок — мастак”, А. Гарон “Думы пра Беларусь Святаслава Федарэнкі”, М. Карэлінай “Графік Міхаіл Басалыга”, Н. Лазукі “Дзве планеты Уладзіміра Уродніча”, А. Багданавай “Мара пра мора” (пейзажы Леаніда Леўчанкі), Р. Аладавай “Паэма Янкі Купалы “Над ракою Арэсай” у люстэрку музычнага міфа”, Т. Ляшчэні “Кампазітар і паэт” (паэзія Максіма Багдановіча ў музыцы Анатоля Багатырова), Д. Кавалевіч “Акопы”, “Ляўкі”, Ф. Ваданосавай “Паэма “Над ракою Арэсай”, В. Калініна “Нашчадкам у добры дар” (пра Мінскі замак) і іншыя. У “Літаратурным ветразі” Ю. Голуб прадстаўляе вершы Б. Ермашкевіча.

## Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ

●

*Я ляжу й не забываю дыхаць,*
*Я ляжу і ўзгадваю сябе,*
*Каб забыцца зноў і плакаць ціха*
*У халодным, неспакойным сне.*

*Душыць мяне роўнядзь шэрых сценаў,*
*Што ў маёй турме стаяць мяжой.*
*Я шкадую, што яшчэ не зведаў*
*Чалавека, які будзе мной.*

*Сціснy у кулак святую веру:*
*Буду я ПА-ЗА, а не СЯРОД.*
*Ўздых — і я прарву сляпую цемру,*
*Лёгкія ўратуе кісларод.*

●

*Сонная раніца*
*ліецца ў яе пакой.*
*Мяккае золата —*
*стукае ў шыбу дзень*
*шоргатам вуліцы*
*і растварыўся сон.*
*Неба ўзіраецца*
*ў шэрасць яе вачэй.*

*Чорнаю коткаю*
*ціха лягла ля ног*
*коўдра маўклівасці;*
*ды павуціннем цень*
*з крыламі цёмнымі*
*вылецеў за парог.*
*Мяккае золата —*
*стукае ў шыбу дзень.*

*Кроплі яе душы*
*зноў на шчацэ гараць;*
*быццам пяшчотны дождж*
*падае іх крышталь.*
*Сэрца стамілася*
*нечага чакаць,*
*і адзінота зноў*
*свой пачынае баль.*

*Кнігу жыцця яе,*
*седзячы за сталом,*
*моўчкі гартае час*
*чорнай сваёй рукой.*
*Новай надзеяю,*
*новага дня святлом*
*сонная раніца*
*ліецца ў яе пакой…*

●

*Ты мне падносіш келіх*
*З Морам Твайго Кахання.*
*У гэтым салодкім зеллі*
*Я растваруся дазвання.*

*Буду ад шчасця плакаць,*
*Буду смяяцца ад болю.*
*Моўчкі я лягу на плаху,*
*Што абяцае мне волю.*

*Сэрца твой холад лашчыць,*
*Вечнасць зноў будзе тваёю,*
*Знікне яна ў пашчы*
*Ночы, што стане змяёю.*

*Я не прачнуся ўранні,*
*Згаснуць мае ўсе зоры*
*У Моры Твайго Кахання,*
*Мёртвым, салёным моры.*

●

*зіхоткая памяць*
*сцякае мятнаю слязою*
*па аксамітавай шчацэ*
*і гарыць*
*салёным агеньчыкам*
*у куточку вуснаў*
*якія працягваюць*
*шаптаць*
*сваю малітву*
*што мусіць*
*даўно*
*быць забытай*



*Насустрач сонцу*

## Сцяпан СЯРГЕЙ

●

*Смерць не спыняе страшную касьбу,*
*Нам не спасцігнуць таямніцу рэчаў.*
*Хто множыць веды —*
*Множыць і жальбу,*
*Даўно прарок біблейскі*
*папярэджваў.*

*А мы, як матылькі —*
*На той агонь,*
*Што не сагрэе,*
*А апаліць крылы.*
*І пройдзе боль праз чорную далонь,*
*І над зямлёй патухнуць небасхілы.*

*І страчанае болей не знайсці,*
*Я зразумею восенню самотнай:*
*Усё часова ў гэтым вось жыцці,*
*Мы толькі госці ў вечнасці халоднай.*

*А што такое час? —*
*Адвечны рух*
*Матэрыі ў бясконцасці сусвету.*
*І над усім той бессмяротны дух,*
*Што сэнс уклаў*
*І ў атам, і ў планету.*

*А нам, смяротным, гэты сэнс шукаць —*
*Нялёгкая да ісціны дарога.*
*І ў адзіноце чорнай паміраць,*
*І ў адзіноце светлай*
*Славіць Бога.*

●

*Пакутны роздум над жыццём:*
*Адкуль мы,*
*Хто мы,*
*І навошта?..*
*У вокны вецер стукне днём,*
*Ці галубіная зноў пошта?*

*Якая вестка?*
*Мо адказ*
*На ўсе праклятыя пытанні…*
*Узыдзе ў вызначаны час*
*Над шляхам зорка на змярканні.*

*Святло ад восеньскіх бяроз*
*Развее страх мой*
*І трывогу.*
*Я ўсё ж удзячны табе, лёс,*
*Што даў мне гэтую дарогу;*

*Што я яшчэ на той вярсце*
*У гэтым апусцелым свеце,*
*Дзе гулка чорнай немаце*
*Упарціцца*
*Адчайны вецер.*

## Галіна БАБАРЫКА

### Трывога

*Ластаўкі сцелюць дарогу*
*Дажджу, што прасеяў туман.*
*Стань, заклінаю, трывога*
*Няпраўдай і сэрца не рань.*

*Душу не трымай на агні*
*Болю, бяды і адчаю.*
*Божа, трывогу вазьмі,*
*Сэрцам цябе заклінаю.*

*Ластаўкі дождж разаслалі,*
*Глянула сонца ізноў.*
*Кроплі трывогі сцякалі*
*Па твары пякучай слязой.*

●

*Жыццё з табой праведзена ў журбе,*
*Гаротныя старонкі я гартаю.*
*Як клятву паўтараю я сабе,*
*Што больш цябе не пацягну да раю.*

*Апушчаны ў знямозе рукі,*
*Нячысцікаў хай радуецца зграя.*
*Калі не йдзеш ты без прынукі.*
*Я больш цябе не пацягну да раю.*

*Ружовасць мары ты на шэрасць лёсу*
*Змяніў. Вядзе жыцця крывая*
*Уніз, у пекла, не к нябёсам.*
*Я больш цябе не пацягну да раю.*

*У цемры кволым вугальком*
*Апошняя надзея дагарае.*
*Жыццё благім здаецца сном.*
*Я больш цябе не пацягну да раю.*

*Столінскі раён*

## Надзея ХОЦІНА

*Мая песня абарвецца ў вышыні*
*Я знаю*
*Мае косы стануць летняй даўжыні*
*Чакаю*
*Маё сэрца закацілася ў пясок*
*Шукаю*
*Пазбаўляю былой пільнасці свой зрок*
*Гуляю*
*Ты за здраду мае вочы спапялі*
*Кахаю*
*Не вярнуцца Леанідам да Зямлі*
*Я знаю...*

●

*Калі я ўбачыла Браму —*
*Я прайшла паўз яе...*
*І мой свет развалiўся*
*на дзве палавіны...*
*Тады я згубіла ўсё:*
*Мінулае*
*і будучае...*
*Засталася зямля, сонца,*
*Блакіты нябёс і зорны бляск...*
*Але мяне там не было.*
*На застылай, сцюдзёнай зямлі,*
*Пад снежным покрывам*
*Мяне таксама не было.*
*Але за туманам,*
*як прывід,*
*Стаяла Брама.*
*І, адчуваючы спінай*
*яе цагельны холад,*
*Я імкнулася назад,*
*у Нікуды...*
*Туды, дзе было блакітнае сонца*
*І зялёнае аксамітнае неба,*
*Духмяны палын і*
*горкі пацалунак.*
*Асколкі лёсу на скрыжаваннях жыцця*
*І старажытныя муры*
*Цяжарам стагоддзяў на плячах...*
*І Вечная Брама,*
*Праз якую я не здолела*
*прайсці.*

### На мяжы

*Губляюся*
*У прыцемку*
*Нябачнага жыцця.*
*З табой — ці без цябе —*
*Усё адно ў расстанні.*
*Без дому,*
*Без радзімы*
*На мяжы сляпой*
*Пакутна*
*Застаюся.*
*Да світання.*

*Развітацца*
*З надзеяй —*
*Мне не ўпершыню.*
*Ўзлятаць —*
*А потым падаць —*
*Вось наканаванне.*
*І, страціўшы*
*Апошнюю уладу*
*Нада мной,*
*У прыцемках*
*Наявіцца*
*Вяртанне...*

*г. Маладзечна*



Акварэль Васіля ШАРАНГОВІЧА

## Іна МАРОЗ

### Дождж натхнення

*Паэзія*
*Спляталася ў адзіным парыве*
*З мелодыяй.*
*І цуд яны разам стварылі!*
*Напоўнілі*
*Душу святлом адмысловым,*
*Струменілі*
*Пад гукі акордаў словы.*
*І звонкія,*
*Вясёлыя ноткі ў высі*
*Змяшаліся*
*І хуткім патокам ліліся...*
*Натхнення дождж*
*Самоту маю размывае.*
*Я да нябёс*
*На крылах кахання ўзлятаю.*

●

*Вы чулі, як плача скрыпка*
*За мураванай сцяною,*
*Спрачаючыся з цішынёю*
*Голасам стомлена-хрыплым?*

*Так ные душа ад болю,*
*Калі адзінота нясцерпная.*
*Як струны, напятыя нервы,*
*І песня рвецца на волю.*

*Лепельскі раён*

## Мікалай ВІНЯЦКІ

### Пярсцёнак

*Пад срэбны звон сасонак*
*Над ціхім ручаём*
*Здымі з рукі пярсцёнак,*
*Схіліўшыся чалом...*

*Трымаючы за венчык,*
*Каб не згубіўся след,*
*Пусці яго ў струменьчык,*
*Што льецца неўпрыкмет.*

*Калі ж пярсцёнка промні*
*Азмрочаць сінь вады —*
*Дзявочай долі, помні,*
*Не праміnуць бяды...*

*Як лёс парой журлівай*
*За сок гарчэй калін —*
*Расстайны жураўліны*
*У высях плача клін...*

*Душу сагрэе мілы —*
*Не трэба іншых слоў... —*
*Маліцеся на сілы,*
*Якія шлюць Любоў!..*

### Любоў абагаўляю...

*Ізноў міжзорнай млечнасцю*
*У воблаках крыляю*
*І за яднанне з Вечнасцю*
*Любоў абагаўляю...*

*Нябеснай спеўнай ліры звон*
*Ёй абвясціў бяссмертнасць... —*
*Жыццё зямны яе закон*
*Праверaны на вернасць...*

*Святлом ад спеўных промняў зор*
*Сябе я атуляю:*
*У ім — пяшчотнасці прастор,*
*Якую блаславляю...*

## Ірына Войтка

●

*Дзе той храм, у які*
*я прыйду пакланіцца,*
*Не высокім багам,*
*не шыкоўным сталіцам...*
*Не панам, не грашам —*
*Душам чыстым — Дзядам.*
*Змагарам, Ваярам.*
*Дзе святая любоў*
*Да спрадвечных асноў.*
*Дзе жыццё — адкрыццё,*
*Песня — сэрцабіццё.*
*Па-за лучнасцю дзён*
*Гэты Храм мне відзён.*
*Яго светлых крыніц*
*Прыпадаю я ніц.*

●

*Мудрасць прыносіць дарога.*
*Мудрасць прыходзіць з гадамі.*
*Мудрасць даецца ад Бога*
*І застаецца між намі.*

*Гляну ў вочы і твары*
*(Ёсць чаму тут падзівіцца!) —*
*Мудрасці воблік алтары*
*Дзесьці мільгне бліскавіцай.*

*г. Слонім*

## Дзмітрый ДЗЯТКО

●

*Ты ад мяне далей за Атлантыду.*
*Яе спакой калыша акіян,*
*І над паверхняй хвалістай прывідна*
*Курыцца водных пырскаў фіміям...*
*...І сабе не шукаю прытулку —*
*дзе?*
*Дагарыць паратунак апошні —*
*дзень.*
*Золкай ноччу адсекшы свае карані,*
*Адлячу да руін занядбанай зямлі.*
*Належу ёй — затопленай, забытай,*
*Звулканенай у попельных вірах, —*
*Злучаючы любоўю хваравітай*
*Вулканы і цябе ў архіпелаг.*
*На пошукі тваё*
*я слаў галеры*
*Сваіх перажыванняў і турбот,*
*А сам сачыў, як блікам на паперы*
*Трымцеў і паміраў лампады кнот —*
*Алей дапіты.*
*Зноў заныла грудзі.*
*Сціскае скроні слёзная любоў.*
*І атлантычны боль надрыўна студзіць*
*Запал недарыфмованых радкоў.*

●

*Я пачуў пранізлівы крык,*
*які на ўсю моц маіх лёгкіх*
*загучаў над Сусветам.*

*Я пачуў гэты гул*
*ва ўсёй яго рэзкай,*
*праніклай цішыні.*
*Я пачуў гэты гуд так,*
*як ніхто іншы,*
*і сказаў сабе: "Малайчына".*

*Я пачуў і падумаў,*
*што, напэўна, валодаю*
*амаль музычным слыхам.*

*І думаў так, пакуль*
*Не стала відавочным,*
*што гэта гудзе маё сэрца.*
*Маё...*

## Алена РУЖ

●

*Я бегчы*
*не хачу па слізкім крузе,*
*У паўсядзённа-безнадзейнай скрусе,*
*Зацягне зноў*
*Свой невыцерпны вузел*
*Абуджаны адчай.*
*Паміж цяплом апошнім,*
*паміж слотай,*
*Паволі захаплюся адзінотай,*
*Хай плача дождж,*
*над восеньскай лістотай*
*Скажу табе: "Бывай!"*

●

*Ад вясны да вясны*
*Я блукаю па свеце,*
*Счараваныя сны*
*Моўчкі гушкае вецце.*
*Ці зіма, ці вясна —*
*Іх душа не ўспрымае,*
*Без кахання яна*
*Слепавата-нямая.*
*Толькі сэрца пячэ*
*Незагойная рана,*
*Ці сустрэну яшчэ,*
*Чуцьму, бачыцьму ранак?*
*Ад вясны да вясны*
*Зноў блукаю па свеце...*
*У сутонні лясным*
*Толькі вецце ды вецер.*

*г. Слонім*

## Тамара БАРАДЗЁНАК

### Раніца

*Пеўні ладзяць пераклічку,*
*Значыць, час ужо ўставаць:*
*Па заведзенай прывычцы*
*Ў вёсцы доўга нельга спаць.*

*Паляць печы гаспадыні,*
*Скача полымя, жыве.*
*І рыпіць безперапынна*
*Па-над студняй журавель.*

*Косы б'юць — аж адгалоскі.*
*Вуркнуў голуб на страсе.*
*І пакуль жывыя вёскі,*
*Значыць, выжывем усе!*

### Табе

*Я ў лузе тваім хачу краскаю стаць,*
*Галоўкай табе найпрыветна ківаць.*
*Над рэчкай тваёй быць вясёлкай хачу:*
*Зачэрпну вады, да цябе прылячу.*
*І будзе вада, як жывучы бальзам,*
*Каханне і шчасце падорыць ён нам.*
*Сцяжынкай хачу быць, якою ідзеш,*
*І марай, якую няспынна завеш.*
*Калі ж да другой твая пойдзе дарога,*
*Ты не кажы мне тады анічога.*

*г.п. Ушачы*

## Сяргей ПАТАРАНСКІ

### "Госці"

*Колькі тут нязваных гасцей,*
*колькі тут незапрошанай дрэні:*
*кожны першы ў душы ліхадзей,*
*хоць па твары, здаецца, сумленны.*

*Колькі тут панасела істот,*
*між якіх дух Гасподні страчан.*
*Яны лічаць сябе за народ,*
*хоць парадку ў іх доме не бачна.*

*Колькі добра-прыстойных жывёл*
*і ружовых, насычаных рылаў.*
*Пэўна, чорт іх у госці завёў,*
*каб душа іх падачкі прасіла.*

*Кожны ролю іграе сваю,*
*хоць агульная роля іх — статак.*
*Тыя госці прыйшлі на зямлю,*
*каб адное — трымаць свой дастатак.*

*І не болей, а болей няма*
*анічога ў мяжы разумення,*
*бо у кожным душа, як турма*
*ўласных розуму, волі, натхнення.*

### Матыў Экзюпеpы

**Л. Дранько-Майсюку**

*Твой прынц маленькі на самоце,*
*о фанабэрлівая ружа.*
*Кахаў цябе ён надта дужа,*
*таму сабой табе заплаціць.*

*Але між дальніх вандраванняў*
*ці будзеш з ім хаця б у сненні?*
*О ружа — ўсё табе да фені,*
*яго туга тваёй не стане.*

*Маленькі прынц, адкінь самоту*
*і спрат пустых перажыванняў:*
*яна лепш востры шып дастане,*
*чым дасць табе сваю пяшчоту.*

## Павел Гаспадыніч

●

*Не засталося ад цябе*
*Ні кроплі болю,*
*Ні нават памяці расы.*
*Ды нешта ўсё адно*
*Скуголю*
*Пад вокамгненны стогн слязы.*
*Не засталося ад цябе*
*Світанкаў,*
*Ні нават снежнае зімы.*
*Ды нешта ўсё адно*
*Прымрою*
*Пад постук*
*Стомленай крыві.*
*Не засталося ад цябе*
*Зусім нічога,*
*Ні нават развітальных сноў.*
*У белых сценах шэрага*
*Пакоя*
*Засіліўся*
*Аскепачак Любові.*

# “Славацкая Нестарка” — новыя знаходкі

Пра Людмілу Іванаўну Краскоўскую і яе бацьку Івана Ігнатавіча Краскоўскага, вядомага дзеяча беларускага адраджэнцкага руху, асветніка і педагога ў “ЛіМе” паведамлялася ў 1999 годзе (публікацыя С. Панізніка “Славацкая Нестарка” — № 32 ад 13.08.99 г., с. 15 і ў 2001 г. у артыкуле прафесара універсітэта г. Прэшава (Славакія) Міколы Мушынкі “Не чужы для беларусаў” (“ЛіМ” № 5 ад 2.02.2001 г. у перакладзе аўтара гэтых радкоў).

Жыццёвым і навукова-творчым шляхам самой Л. Красоўскай цікавіўся і даследчык з Мінска Мікола Трус, які ў верасні 2000 г. выступіў на Міжнародным навуковым семінары “Славацка-беларускія моўныя, літаратурныя і культурыя сувязі” ў г. Прэшаве з дакладам “Людміла Краскоўская на ўкраінска-беларуска-славацкім памежжы”. Дарэчы, зборнік матэрыялаў згаданага семінара падрыхтаваны да выдання.

Так сталася, што тэма гэтая мае працяг і зараз, бо воляй лёсу да мяне трапілі некалькі сшыткаў з архіва Людмілы Краскоўскай (нездарма яна некалі паведамляла С. Панізніку і М. Скоблу, што “яшчэ многа засталося цікавага на яе старой кватэры”). У згаданых сшытках змешчаны пераклад, зроблены Л. Краскоўскай з чэшскай мовы на беларускую аперэты ў 3-х актах Карэла Фожта “У чырвоным млыне”.

Два агульныя ў шчыльных вокладках сшыткі і адзін тонкі вучнёўскі, такімі, відаць, карысталіся навучэнцы Дзвінскай беларускай гімназіі, дзе вучылася Л. Краскоўская, а дырэктарам якой быў яе бацька Іван Ігнатавіч. На чацвёртай старонцы вокладкі апошняга з названых сшыткаў змешчаны тэксты на латышскай, нямецкай і рускай мовах і табліцы множання і дзялення. Вось у гэтых трох сшытках на пра-нумараваных старонках — усяго 121 - і бачым уласнай рукой Л. Краскоўскай напісаны пераклад тэксту аперэты К. Фожта.

Калі лічыць перакладзены Л. Краскоўскай твор аперэтай (так пазначана ў рукапісе), то сам тэкст варта называць — лібрэта. Але, на нашу думку, твор па сваім жанры больш выдае на вадэвіль. Пра гэта сведчаць і звесткі з энцыклапедыі пра самога К. Фожта і яго творчасць. Карэл Фожт нарадзіўся ў 1969 годзе ў Чэхіі. Быў аўтарам многіх музычна-драматычных твораў, напісаных у народных матывах. Для тэатра напісаў больш за 50 твораў, сярод якіх і вадэвіль “У чырвоным млыне” (1909 г.).

Паколькі названы твор вызначаецца як музычна-драматычны, у ім акрамя ўласна празаічных маналогаў, дыялогаў дзеючых асоб, ёсць яшчэ і музычныя ўстаўкі ў форме харавых і сольных спеваў. Усяго ў тэксце твора налічваецца трынаццаць такіх песень.

Калі аўтарам перакладу празаічнага мы называем Л. Краскоўскую, то аўтарства перакладу песень належыць, па сведчанні прафесара М. Мушынкі (уладальніка рукапісу), — Уладзіміру Жылку.

Хутчэй за ўсё гэта блізка да ісціны, бо паэт Уладзімір Жылка быў у добрых, прыязных адносінах з сям’ёй Івана Краскоўскага, а з яго дачкой Людмілай Іванаўнай яны былі добрымі сябрамі, перапісваліся. Пра гэта згадвае ў сваім нарысе “Пражскі эпісталярый” і Уладзімір Андрэевіч Калеснік: “Невядома, ці пісаў каму-небудзь Жылка лісты ў Вільню пасля пераезду ў Мінск. *Перапісваўся толькі з Людмілай Краскоўскай, распытваў пра самых блізкіх сяброў, цераз яе перадаваў ім прывітанні.* (Падкрэслена мной. — *В. М.*)

Магчыма, Людміла Іванаўна і папрасіла свайго сябра Уладзіміра Жылку дапамагчы ёй у справе перакладу тэкстаў песень у вадэвілі. Ці з’яўляецца менавіта Уладзімір Жылка аўтарам перакладаў згаданых песень з вадэвіля К. Фожта з чэшскай мовы на беларускую, яшчэ трэба высветліць. Чаму менавіта на твор К. Фожта звярнула ўвагу Л. Краскоўская і пераклала яго на беларускую мову, чым ён прыпаў ёй да сэрца, мы не ведаем.

Але гэты пераклад мае для нас пэўнае літаратурна-культурнае значэнне і, безумоўна, сведчыць таксама пра здольнасці Л. Краскоўскай і ў гэтай галіне.

Віталь МАСЛОЎСКІ,
выкладчык кафедры славістыкі універсітэта г. Прэшава (Славакія)

## ПЕРАКЛАДЫ

Эдгар По

### Крук

*Раз, калі я сярод ночы*
*задуменна мружыў вочы*
*над пажоўклым фаліянтам,*
*паўзабытым і старым,*
*калі ў сон хіліла стома,*
*за дзвярыма майго дома*
*стук пачуўся. “Незнаёмы*
*пад акном стаіць маім, —*
*мармытнуў я, — падарожны*
*пад акном стаіць маім,*
*позні госць — і ўсё на тым”.*

*Добра помніцца: панылa*
*на дварэ завея выла,*
*падаў водсвет ад каміна,*
*гас ужо агонь у ім.*
*Марна, прагнучы світання,*
*я забыць хацеў дазвання*
*пра Лінор, якой літанні*
*ў небе хорам незямным*
*шлюць анёлы, і не стрэне*
*аніхто ў жыцці зямным*
*нізашто — і ўсё на тым.*

*Шаўкавісты шолах штораў*
*ціхім жалем і дакорам*
*у душы збудзіў трывогу,*
*страх, не знаны анікім,*
*так, што сэрца зашчымела,*
*і, каб птушкай не трымцела.*
*“Госць, — шаптаць я стаў нясмела, —*
*пад акном стаіць маім,*
*госць здарожаны, напэўна,*
*пад акном стаіць маім,*
*позні госць — і ўсё на тым”.*

*І, узяўшы сябе ў рукі,*
*я прамовіў без прынукі:*
*“Ці спадар там, ці спадыня,*
*не пакрыўджу вас нічым,*
*выбачайце дзеля Бога,*
*задрамаў я і нічога*
*не пачуў, як пад парогам*
*вы спыніліся маім”.*
*Насцеж дзверы расчыніў я*
*ў доме сціпаным маім —*
*там быў змрок — і ўсё на тым.*

*Не знаходзячы збавення,*
*поўны страху і сумнення,*
*мроіў мроямі такімі,*
*што не мроіцца жывым,*
*але морак быў бязмоўны,*
*толькі ціхі гук няўлоўны*
*прашаптаны быў раптоўна,*
*гэта я азваўся ім,*
*прашаптаў: “Лінор”, — і рэха*
*адгукнулася мне ім,*
*прашаптаў — і ўсё на тым.*

*Зноўку сэрца зашчымела,*
*бы ў агні душа гарэла,*
*стук, цяпер ужо мацнейшы,*
*за акном пачуў маім.*
*Мовіў я: “Чаго баяцца? —*
*і ў акном стаў узірацца, —*
*так не варта хваляваацца,*
*вецер тоіцца за ім,*
*ціха, сэрца, супакойся,*
*вецер тоіцца за ім,*
*толькі ён — і ўсё на тым”.*

*Раму я штурхнуў штосілы,*
*і няўзнак, падняўшы крылы,*
*пракаветны крук па-царску*
*ўзнік тады ў акне маім,*
*без паклону годна, горда*
*ён прайшоў паходкай цвёрдай*
*і ўзляцеў з паставай лорда*
*аж да столі, а затым*
*сеў, на бюст Палады ўсеўся*
*над дзвярыма ён затым,*
*сеў на бюст — і ўсё на тым.*

*Птушка чорная здзівіла,*
*але ўсмешкай азарыла*
*маё сумнае ўяўленне*
*важным выглядам сваім.*
*І спытаўся я з паклонам:*
*“Госць мой, пеклам блаславёны,*
*як цябе ў садах Плутона*
*ў царстве змрочным і глухім*
*клічуць цені?” Крук пракаркаў*
*змрочным голасам глухім:*
*“Nevermore!”* — і ўсё на тым.*

*За душою нешта мела,*
*што так лёгка зразумела*
*мяне чорная няўклюда*
*кволым розумам сваім;*
*і хоць сэнсу бачыў мала*
*ў тым, што мне яна сказала,*
*але слова прагучала,*
*нечуванае нікім —*
*крук назваўся імем дзіўным,*
*нечуваным анікім:*
*Nevermore — і ўсё на тым.*

*Асядлаўшы бюст Палады,*
*крук быў выказацца рады,*
*так, нібы сябе да донца*
*словам выліў ён адным.*
*Не сказаў нічога болей,*
*бо душу сваю спатоліў,*
*і прамовіў я міжволі:*
*“Бы з назеямі, і з ім*
*давядзецца мне расстацца,*
*але каркнута зноў ім:*
*“Nevermore!” — і ўсё на тым”.*

*Здрыгануўся ад адказу*
*і азваўся не адразу:*
*“Слова птаха, безумоўна,*
*было сімвалам жывым.*
*Не інакш, у дні нягоды*
*гаспадар былы заўсёды*
*так казаў яму для згоды,*
*лёс выказваючы ў ім,*
*крук засвоіў тое слова,*
*лёс выказваючы ў ім:*
*“Nevermore!” — і ўсё на тым”.*

*Мроі зноў мае ўваскрэслі,*
*я бліжэй падсунуў крэсла*
*і на мяккім аксаміце*
*стаў я думаць над усім:*
*да канца незразумела,*
*што на ўвазе птушка мела,*
*што сказаць яна хацела*
*змрочным воклічам сваім,*
*што за сэнс яна таіла*
*ў змрочным воклічы сваім:*
*“Nevermore!” — і ўсё на тым.*

*Сеў насупраць я сурова*
*і да птаха ані слова*
*не прамовіў, у здагадках*
*разгубіўшыся зусім.*
*Вочы птаха запалалі*
*І наскрозь мяне працялі:*
*промні лямпы прыласкалі*
*аксаміт на крэсле тым,*
*дзе Яна спачыць любіла,*
*не спачне яна ўжо ў ім*
*нізашто — і ўсё на тым.*

*І тады здалося, быццам*
*пачало паветра мгліцца,*
*дым з кадзільніц серафімаў*
*дом запоўніў на вачах.*
*Гэта Бог мяне вітае,*
*забыццё мне пасылае*
*і бальзамам ахінае,*
*каб Лінор забыў, не чах.*
*“Nevermore!” — пракракнуў птах.*

*І сказаў я: “Крук прарочы,*
*ты злы дух ці дэман ночы,*
*сатаной сюды засланы,*
*у душы ўсяляеш жах,*
*адкажы, прашу я вельмі,*
*дзе ў маёй глухой пустэльні*
*адшукаць бальзам збавельны,*
*каб забыў я ўсё, не чах,*
*дзе шукаць яго, скажы мне,*
*каб забыў я ўсё, не чах?*
*“Nevermore!” — пракаркаў птах.*

*“Хто б ні быў ты, крук прарочы,*
*ці злы дух, ці дэман ночы,*
*дзеля неба, дзеля Бога, —*
*мовіў з болем у грудзях, —*
*адкажы, з Лінор, забранай*
*у Эдэмскі сад, з каханай*
*будзе мне наканавана*
*стрэча ў райскіх прамянях,*
*адкажы, з Лінор мне стрэча*
*будзе ў райскіх прамянях?”*
*“Nevermore!” — пракаркаў птах.*

*“Ты ілжэш, ляці на волю, —*
*закрычаў я, — каб ніколі*
*ані пер’ем, ані духам*
*не трывожыў па начах,*
*зноў вяртайся ў царства ночы.*
*слухаць болей не ахвочы*
*слоў тваіх, што сеюць страх,*
*у Аід ляці, не трэба*
*слоў тваіх, што сеюць страх”.*
*“Nevermore!” — пракаркаў птах.*

*І сядзіць ён нерухома*
*над дзвярыма ў маім доме,*
*асядлаўшы бюст Палады,*
*быццам д’ябал, а пад ім*
*на падлогу цень кладзецца,*
*і душы маёй падзецца*
*з-пад яго не давядзецца*
*анікуды ўжо зусім,*
*выйсця з кола яго ценю*
*ёй ужо няма зусім*
*нізашто — і ўсё на тым.*

* Nevermore — нізашто, ніколі больш (англ.)

**Пераклаў з англійскай**
**Васіль САХАРЧУК**

## Сяброваў з Максімам Танкам

***Няшмат знойдзецца паэтаў, звязаных з нашай краінай такімі доўгімі і трывалымі стасункамі, як італьянец Альда Северыні. Яшчэ на пачатку 60-х ён наведаў Беларусь, неаднаразова сустракаўся з беларускімі аўтарамі і ў Італіі. Дзякуючы намаганням А. Северыні і А. Шаўні на беларускай мове выйшлі анталогіі італьняскага апавядання “Золата Фарчэлы” (1968) і італьянскай паэзіі “Ад вежаў Ферары” (1974). Вершы самога А. Северыні друкаваліся ў нашых перыядычных выданнях, а ў 1980 годзе выйшла яго кніга паэзіі “На арбіце зямлі” ў перакладзе Р. Барадуліна, Я. Семяжона, М. Танка і А. Шаўні. Італьянскага паэта звязвалі цёплыя адносіны з Максімам Танкам, на працягу доўгага часу яны абменьваліся лістамі. Калі ў Інстытуце літаратры пачалася падрыхтоўка Поўнага збору твораў М. Танка, я звярнулася да А. Северыні з просьбай даслаць копіі лістоў нашага паэта. Спадар Северыні добразычліва адгукнуўся, а праз некаторы час даслаў некалькі сваіх кніг, і мне захацелася пазнаёміць з яго паэзіяй беларускіх чытачоў.***

Альда СЕВЕРЫНІ

### З кнігі “Вершы пра каханне” (2001)

#### Новыя поры года

*Калі час квітнення*
*надыдзе мы павінны быць там*
*каб распачаць новыя поры года.*

#### Мегера ці каханка

*Я кінуў каменьчык у выжар*
*і ў канцэнтрычныя колы*
*вады збегліся жабы*
*абуджаныя нечакана.*
*Як і нашыя сны*
*цябе праследуюць пудзілы*
*падгінаюцца твае кален***Перакладчыца**
*рука то бярэ цябе то не бярэ*
*трывога і жах вымалёўюваюцца*
*нга тваім твары і падскокваючы на ложку*
*бачыш ізноў яе*
*мегеру ці каханку?*
*што спакушае цябе і запрашае*
*прылегчы ля свайго боку.*

#### Напрамак невядомы

*Купі білет на самалёт*
*у невядомым напрамку*
*з засакрэчаным адрасам каб я*
*ахоплены падманнай сарамлівасцю*
*не змог дагнаць цябе*
*адкрыліся б старыя прабоіны*
*ў баку карабля*
*і — трагічная гібель (нас чакаюць*
*акулы. Жах!).*
*Ад болю кахання я пакуль*
*не вылечыўся і адна іскра можа вылікаць*
*новы пажар*
*ляці на безыменны архіпелаг*
*якога не знойдуць на атласе*
*да краявідаў і паселішчаў таіцянскіх*
*дзе Гаген майстраваў сваё мастацтва*
*цёплыя колеры яго алею*
*круглабокія мясцовыя дзеўчыны*
*з грудзямі хмельнымі і дзёрзкімі*
*туды дзе настойліва падае сонца*
*кожны зародак жыцця*
*кожная фалда зямлі*
*гэта часціна моцы і радасці.*
*Паспрабую на адлегласці*
*сцерці тваю прысутнасць*
*даруй мне!*

#### Без шпагі

*Ікона на пастаменце*
*усё кахаю ў табе*

*я даў табе свайго сына*
*каб выказаць сваё каханне*

*у венах тваіх і целе*
*калі ты размаўляла са светлякамі*

*я вытатуіраваў на ілбе тваім матыля*
*што таньчыць басанож на кубе*

*я адкрыў табе сваю душу*
*не вымаючы шпагі з ножнаў*

*каб ты змагла адчуваць сябе*
*цалкам утульна*

*перад гэтай іконай*
*нашае каханне не мае болей прасторы*

*геаметрый гатовых стрымаць*
*лаву што нізвргаецца з вулкана.*

**Пераклала з італьянскай**
**Аксана ДАНІЛЬЧЫК**

# Ён — народны!..

Да публікацыі ў часопісе "Крыніца" (2002, № 2) артыкулаў і эсэ пра жыццё і творчасць Аляксея Пысіна

Паэтычны талент Аляксея Пысіна — ад Бога. Пра гэта пісалі многія паэты і крытыкі. Яго паэзію аб вайне прыраўнялі да прозы Васіля Быкава: "Пысін — як Быкаў у прозе." Так лічылі Варлен Бечык, Віктар Карамазаў, Любоў Гарэлік і іншыя. "Ён стварыў лепшую, так-так, лепшую ў нашай беларускай літаратуры ваенную лірыку" (Віктар Карамазаў). "Аляксей Пысін асоба, і асоба неардынарная, асоба беларуская..." (Генадзь Бураўкін). "У Пысіна багата вершаў-шэдэўраў", — так сцвярджалі Міхась Стральцоў і іншыя паэты.

Пры жыцці пра А. Пысіна пісалі больш, чым пра іншых паэтаў. І гэта гаворыць само за сябе. Радасна, што не забыты паэт і пасля смерці. У часопісе "Крыніца" больш за трэць плошчы (амаль 70 старонак) адведзена асобе Аляксея Пысіна. Абазначаны вехі жыццёвага і творчага шляху паэта. Змешчана дванаццаць яго вершаў, большасць з якіх — шэдэўры (увогуле ж, у Пысіна некалькі дзесяткаў такіх вершаў). Светлай памяці Аляксея Пысіна Васіль Макарэвіч прысвяціў "Баладу другой смерці", у якой згадаў трагічны факт, што меў месца ў магілёўскай гарадской лякарні. А яшчэ артыкулы, эсэ, успаміны васьмі аўтараў, у якіх дадзена надзвычай высокая ацэнка творчым здабыткам паэта, яго чалавечым якасцям.

"Аляксей Пысін разам з Максімам Танкам, Аркадзем Куляшовым і Піменам Панчанкам называецца сярод майстроў, якія вызначылі самыя плённыя, у змястоўным плане наватарскія тэндэнцыі ў развіцці тагачаснай беларускай паэзіі". "Дабрыня і спагадлівасць былі яго сутнасцю". "Пысінская паэзія на глыбінным узроўні, а вельмі часта і адкрытым тэкстам сцвярджала чалавечнасць".

**Дзмітрый БУГАЁЎ**

"...я рабіў даклад (у 1970 г. — **В. А.**), гаварыў пра яго жывую, натуральную ў сваёй плыні, як рака, паэзію, пра яе чалавечнасць, яе мудрасць, яе сугучнасць з народнай творчасцю". "...адным з асноўных матываў творчасці паэта з'яўляецца "сцвярджэнне адзінства ўзнёслага і зямнога, агульнага і канкрэтнага, мінулага і сённяшняга..."

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ**

"...мастацкае асэнсаванне рэчаіснасці ў вершах творцы набывае філасофскую заглыбленасць", "...мастак стварыў і пакінуў нам паэзію зямлі і неба".

**Таццяна ХОМІЧ**

"А. Пысін цікавы і па-свойму унікальны ў нашай літаратуры".

**Тамара НУЖДЗІНА**

"...класічна-суразмерная лірыка Аляксея Пысіна ўяўляе сабой варыяцыі "нялёгкага, сінтаксічна і інтанацыйна ўскладненага цячэння верша, як у Баратынскага і Цютчава некалі, як у нашага Купалы ў цэлым. ...лірыка нашага паэта (Пысіна. — **В. А.**) нагадвае лірыку Блока. ...многія словы — на кошт золата; ...як у Твардоўскага". "У асобе Пысіна мы бачым фенаменальнага мастака".

**Мікола МІШЧАНЧУК**

"Аляксей Пысін — паэт глыбокі. І ягоная глыбіня чыстая. Надзелены ад Бога найвышэйшым моцартаўскім пачаткам, ён пісаў сябе самога, такім як ёсць..." "...у іх (вершах-партрэтах Пысіна. — **В. А.**) ёсць нешта агульнае з партрэтамі Пётры Сергіевіча. Той жа беларускі каларыт, тая ж любоў да аб'екта сваёй творчасці".

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

"...духоўны стрыжань яго паэзіі — знітаванасць з роднай зямлёй, з яе зажуранымі ўвосень і ўзнёсла-радаснымі ўвесну вялікімі і малымі рэчкамі, сінявокімі азёрамі, мядовым водарам лугавых траў, шчымліва-развітальным курлыканнем журавоў, світальнай расой у яблыневым садзе... Усім гэтым поўніцца паэзія Пысіна. У гэтым для мяне — яе святло і хараство, яе сіла і веліч. І яе вечнасць".

**Маргарыта ПРОХАР**

Мусіў прывесці шмат цытат, каб чытач пераканаўся, што аўтары публікацый усе далі найвышэйшую ацэнку пысінскай паэзіі.

У згаданых вышэй артыкулах і эсэ даецца глыбокі аналіз творчасці А. Пысіна, падрабязна на канкрэтных прыкладах разглядаюцца літаратурныя прыёмы і метады паэтычнага працэсу. Прыведзены цікавыя згадкі сустрэч з Аляксеем Пысіным. Ёсць амаль паўтара дзесятка міні-успамінаў і аўтара гэтых радкоў.

А цяпер засяроджу ўвагу на некаторых недакладнасцях і, на мой погляд, не зусім правільных высновах. Яны не вельмі значныя, нават адзінкавыя, але хочацца, каб у адносінах да Пысіна была такая ж яснасць і чысціня, якую паэт меў і любіў у сваіх творах.

Дзмітрый Бугаёў сцвярджае, што ў Збор твораў А. Пысіна ў двух тамах (Мн., 1989) "не ўключаны з кнігі "Наш дзень" ні адзін верш культаўскага характару — з праслаўленнем Леніна і Сталіна". Згодзен, што не ўключаны. А чаму? Таму, што ў гэтай кніжцы іх не было. Ніводнага! Аляксей Васільевіч нават ганарыўся такім фактам, паказваючы мне свой першы зборнік. Уважліва прачытаўшы ўсе вершы, я знайшоў толькі ў двццацівасьмірадковым вершы "Праўды" ўсяго два радкі, у якіх ёсць імя Сталіна.

— А вось жа напісаў! — паказаў я верш "Праўды".

Аляксей Васільевіч недаверліва ўзяў з маіх рук кніжку, паглядзеў на тыя радкі і адказаў:

— Не я пісаў. Гэта рэдактар, каб кніжку выдаць.

"Не ўвайшоў у згаданы Збор твораў і верш "Сцяг", пераконвае чытача Дзмітрый Бугаёў. І тут ён памыліўся. Верш Пысіна "Сцяг" увайшоў у зборнік. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова адкрыць том першы Збору твораў 1989 года выдання на старонцы 150. Пад чырвоным сцягам беларускі народ разам з іншымі брацкімі народамі перамог гітлераўскі фашызм, а сёння пад гэтым жа сцягам адраджае незалежную Беларусь. Не трэба палохацца чырвонага колеру: "Чырвань, чырвань, колер праваты...", — пісаў А. Пысін. Цяпер наконт здзіўлення ад пысінскага сібірскага цыкла вершаў, напісаных ім незадоўга да смерці. Сам жа аўтар артыкула спачатку здзівіўся, а затым, чалавек добры і шчыры, міжволі даў і адказ: "Галоўнай прычынай тут была шчырая і глыбокая адданасць паэта камуністычнай ідэі". А ў аснову гэтай ідэі, як вядома, ўсім, пакладзены агульначалавечыя каштоўнасці і нават шэраг запаветаў Ісуса Хрыста. Калі ўчытацца ўдумліва і непрадузята ў цыкл сібірскіх вершаў, то знойдзеш там паэтычнае бачанне агульначалавечых ідэалаў, а не культ асобы. Згодзен, пацвярджаю гэта, Аляксей Васільевіч добра ведаў, што біяграфія Леніна прыгладжана і адшліфавана. Так, напрыклад, кніжку Марыэты Шагінян "Лениниана", якую яму падарылі ў Краснай Гары на Браншчыне, ён не паставіў на паліцу сваёй дамашняй бібліятэкі. Аддаў мне, зрабіўшы па маёй просьбе надпіс: "В. І. Арцем'еву. Красная Гара. 27 ліпеня 1977 г. А. Пысін".

Верш "Бярозкі белыя ў Дзяржынаве" — перадсмяротны верш паэта апошні. Асобныя радкі з чарнавіка Аляксей Васільевіч чытаў мне па тэлефоне, а затым у сваім рабочым кабінеце, шліфаваў, вывяраў радок кожны па некалькі разоў, Дзяржынскаму верыў. Лічыў яго самым чыстым і сумленным чалавекам. Таму і напісаў:

*Адна*
*І да згарання лінія,*
*Адданасць і любоў адна.*
*І чысціня —*
*амаль наіўная.*
*Амаль дзіцячая яна.*

Такая ж, як у паэта Пысіна. А можа, ён з сябе напісаў гэтыя радкі?

Мікола Мішчанка згадвае: "Вершы-рэпартажы, зрыфмаваныя апавяданні насяляюць старонкі першых трох кніг: "Наш дзень" (1951), "Сіні ранак" (1959) і "Сонечная паводка" (1962)". Калі толькі да першага зборніка, то можна было і пагадзіцца з такой ацэнкай, хаця Дзмітрый Бугаёў дае другую ацэнку, з якой я згодзен поўнасцю: "...таленавітасць Пысіна праглядвала ўжо ў яго ранніх вершах". Другімі словамі, нават у 1951 годзе Пысін быў ужо Пысін, паэт Пысін. А спасылка на тое, што Пысін напісаў у сваёй аўтабіяграфіі, яшчэ не дае падстаў, асабліва калі ўспомніць, што Аляксей Васільевіч быў вельмі сціплы і самакрытычны. Згадаю такі факт. За дзень да смерці, 20 жніўня 1981 года ў прафілакторыі-санаторыі "Сосны", што на беразе ракі Днепр, адбыўся апошні ў жыцці паэта літаратурны вечар. У ім прынялі ўдзел таксама маскоўскі літаратар Святлана Пайна і артыст Валянцін Ермаловіч. У той дзень стала вядома, што Пысіна ўзнагародзілі ордэнам Дружбы народаў. Як вядучы, я прыкінуў, што трэба агучыць гэтую прыемную навіну, каб парадавацца разам з чытачамі. Не ведаю, якім чынам Аляксей Васільевіч разгадаў мой намер і рашуча папярэдзіў:

— Віктар, ты ведаеш, я лічу цябе блізкім другам, але калі скажаш хаця б слова пра ордэн ці пачнеш хваліць мяне, то не чакаць дабра!

Прызнаюся, часам дазваляў я на літаратурных вечарынах прадстаўляць чытачам паэта як лаўрэата Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы і заслужанага работніка культуры, а таксама паказваць яго месца на небасхіле беларускай паэзіі. Паэт рабіў мне дакор, але дараваў такія выхадкі. На гэты раз па яго твары і па інтанацыі ў голасе зразумеў: не даруе. І я сціпла прадставіў яго магілёўцам:

— Паэт Аляксей Пысін.

А вось пра астатнія два "слабыя зборнікі". На паэта Язэпа Пушчу, зборнік "Сіні ранак" зрабіў такое ўражанне: "Сіні ранак. Паветра свежае і чыстае — хочацца дыхаць на поўныя грудзі. Вы чуеце песню, якая кліча і чаруе вас сваёй мелодыяй, яна кранула ваша сэрца і сагрэла яго". У зборніках "Сіні ранак" і "Сонечная паводка" ёсць ужо некалькі вершаў-шэдэўраў. Да прыкладу: "...Была бранёю гімнасцёрка" і "Вузел". Тэкст апошняга варта прыгадаць тут:

*Не ведаю, якім вузлом*
*На векі я прывязан*
*Да старых сосен за сялом,*
*Да яблынь, груш і вязаў;*

*Да кладак гладкіх,*
*Валуноў,*
*Да траў, жытоў на ўзлесках,*
*Да партызанскіх курганоў,*
*І помнікаў гвардзейскіх...*

*Адно я знаю: гэткі меч*
*На свеце на скуецца,*
*Каб мог ён вузел мой рассеч,*
*Не закрануўшы сэрца.*

1958 г.

Верш "Вузел" я паставіў эпіграфам да літаратурнага вянка Пысіну, які я сабраў яму і спадзяюся, што ён выйдзе ў свет. "Вузел" — верш праграмны ў творчасці Пысіна, таксама як у Пушкіна верш "Помнік". Іншы сённяшні малады беларускі паэт узнёсся б да нябёс ад радасці, каб у яго быў хаця б адзін такі твор. А ў Пысіна, яшчэ раз падкрэсліваю, такіх вершаў дзесяткі. І яшчэ. На пустым полі нічога добрага не расце. "Мае мерыдыяны", "Твае далоні" і другія зборнікі паэта прараслі на ўжо дагледжанай Пысіным урадлівай літаратурнай дзялянцы.

І яшчэ з адным меркаваннем Міколы Мішчанкі не магу пагадзіцца: "мала вершаў, прысвечаных маці, канкрэтным людзям, землякам, аднапалчанам". Пра маці ў Пысіна паўдзесятка, калі не больш, вершаў. Ды якіх вершаў! Збіраўся ў маладосці паэму напісаць пра маці, але крытыкі яго адгаварылі, маўляў, вершы яго лепшыя, чымсьці паэмы. Пазней Аляксей Васільевіч пашкадаваў, што паслухаўся. Мне прызнаўся: "Пра маці я ўсё выказаў у вершах". (Я задаваў пытанне: "Чаму не напісаў паэму пра маці?"). У Пысіна не мала, а вельмі багата таленавітых вершаў-партрэтаў (сведчаць Рыгор Бярозкін і Алесь Пісьмянкоў, таму не буду рабіць іх пералік, бо займе шмат месца). У вершах батальных усе прозвішчы сапраўдныя: Валуеў, Гальпін, Аляксей Веселаў, Жыльскі, Імамаў, Свецікаў, Мухін, Мухортаў, Харкоў, Сірацінін, Сямён (Сердзюкоў) і іншыя.

У Тамары Нуждзінай прамільгнула думка, што "нават рэчцы даў назву мастак адпаведную — Дубравенка". Не было патрэбы прыдумваць: рэчка Дубравенка цячэ ў цэнтры Магілёва і ўпадае ў Днепр. Назвы рэк, азёр, гор, вёсак, гарадоў, урочышчаў — усе сапраўдныя, хочаш, то геаграфію вывучай па творах паэта. Імёны герояў таксама сапраўдныя, толькі ў паэмах адно-два імя зменены, і то адной-дзвюма літарамі, не больш таго.

Нават няёмка рабіць такія заўвагі, улічваючы, што артыкулы на самым высокім крытычным узроўні, і аўтары іх людзі аўтарытэтныя, мною паважаныя. Але ж светлая памяць пра самага блізкага сябра Пысіна ўзяла верх. У дзень пахавання А. В. Пысіна нехта з мінскіх паэтаў (Сяргей Законнікаў ці, можа, Ніл Гілевіч) сказаў, што каб Пысін пражыў яшчэ хаця б тыдзень-два, то яму было б прысвоена званне Народнага паэта Беларусі. Але памяротна такое званне не даецца. Чуў я гэтыя словы з трэціх рук. Можа, і легенда. Але ж легенда не без падстаў.

Так, Пысін не быў ганараваны званнем Народнага паэта. Але калі імя Пысіна даследчыкі і літаратары сёння ставяць побач з імёнамі Баратынскага, Цютчава, Блока, Твардоўскага, Янкі Купалы, Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі і іншых выдатных паэтаў, то сумавацца не трэба. Бо гэтым самым творчасць Аляксея Пысіна ацэнена самым высокім балам. У "хіт-паэце" Віктара Яраца Пысін трапіў нават у першую дзесятку, апярэдзіўшы дастойных і ганараваных. Хаця "хіт" — рэч несур'ёзная, а ўсё ж ёсць у ім нейкая справядлівасць, хаця б у адносінах да Пысіна.

Паэзія Аляксея Пысіна ўслаўляе каштоўнасці агульначалавечыя, вечныя. І яна будзе жыць вякамі.

Аляксей Пысін — Майстар. Ён слаўны Сын беларускага народа. Ягоны талент магутны, ягоная Паэзія народная. Яна жыве і будзе жыць, пакуль жыве беларускі народ, пакуль жыве родная мова!

*Пысін заўтра і сянні*
*Як Быкаў у прозе.*
*Ён жыве,*
*Ён людзям родны,*
*Ён Паэт,*
*наш,*
*Ён — Народны!*

**Віктар АРЦЕМ'ЕЎ**

# Леанід Дробаў



Пайшоў з жыцця з-за хваробы сэрца вядомы беларускі мастацтвазнаўца Леанід Міканоравіч Дробаў, не дажыўшы да 76-годдзя адзін месяц. Імя Леаніда Дробава добра вядомае ў асяроддзі мастакоў і навукоўцаў. Яго жывапісныя работы часта з'яўляліся на рэспубліканскіх выставах, ён — аўтар шматлікіх манаграфій і альбомаў па пытаннях беларускага мастацтва. Да часу сваёй хваробы ён актыўна працаваў, выступаў на навуковых канферэнцыях, узначальваў камісіі па абароне дыпломных работ. З 1964 года загадваў сектарам у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі.

Леанід Дробаў нарадзіўся 6 жніўня 1926 года ў вёсцы Растаў Гомельскай вобласці, удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне. Пазней ён набываў мастацкую адукацыю ў Мінскай мастацкай вучэльні. Скончыў БДУ, Беларускі дзяржаўна-тэатральны інстытут. Яго настаўнікамі былі вядомыя мастакі і педагогі П. Крохалеў, А. Мазалеў, І. Ахрэмчык. Пасля заканчэння інстытута ён часта прадстаўляў на выставах свае творы на тэму вайны, з 1964 года стаў сябрам БСМ. Яго творы захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі, Магілёўскім абласным мастацкім музеі, Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі.

Больш вядомы на Беларусі Леанід Дробаў быў як навукоўца. На яго кнігах "Жывапіс Савецкай Беларусі", "Жывапіс Беларусі XIX — пачатку XX стагоддзя", "Беларускія мастакі XIX ст.", манаграфіях, прысвечаных творчасці А. Шыбнёва, А. Бархаткова, А. Шаўчэнкі, А. Мазалёва, выхоўвалася не адно пакаленне беларускіх мастацтвазнаўцаў. Адным з першых ён акрэсліў як нацыянальную спадчыну імёны і творчыя дасягненні мастакоў XIX-га стагоддзя, якія нарадзіліся на Беларусі, але большую частку жыцця пражылі за яе межамі. Л. Дробаў быў і адным з аўтараў шасцітомнай "Гісторыі беларускага мастацтва", меў званне доктара мастацтвазнаўства, Лаўрэата Дзяржаўнай прэміі РБ, быў узнагароджаны залатым медалём АМ СССР.

Леанід Дробаў быў удзячны сваёй "малой радзіме", якая дала яму шлях у жыццё, і клапаціўся аб ёй. У ліку першых перадаў свае творы ў гарадскі пасёлак Акцябрскі на Гомельшчыне, дзе была створана карцінная галерэя Л.М.Дробава.

Шмат сіл і здароўя ён аддаваў грамадскай працы: узначальваў секцыі ветэранаў вайны ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Беларускім саюзе мастакоў, шмат гадоў быў старшынёй дзяржаўных камісій навучальных устаноў Беларусі і Украіны.

Л.М.Дробаў быў добрым і шчодрым дарадцам і калегам па творчым цэху, навуковым кіраўніком аспірантаў, за што карыстаўся вялікай павагай і аўтарытэтам.

Памяць аб Л.М.Дробаве застанецца ў нашых сэрцах — яго малодшых калег розных пакаленняў. Смуткуем і выказваем спачуванне родным і блізкім Леаніда Міканоравіча.

**Сябры**

**Калектыў рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і мастацтва" выказвае глыбокае спачуванне свайму супрацоўніку ДРОБАВУ Канстанціну Леанідавічу ў сувязі з вялікім горам — смерцю бацькі.**

